18 верасня 2020 | № 35 (694)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ ПАДЗЕІ ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Калі дыктатар баіцца коміка**
**Стар. 9**

# Адседзецца — не ўдасца: у 1937-м сведкаў не пакідалі

Тамара МАЦКЕВІЧ

**Я першы раз не патрапіла на нядзельны марш 13 верасня. У раёне Новавіленскай наша калона ў некалькі тысяч чалавек трапіла пад разгон, потым было некалькі спробаў прарвацца праз кардоны — не ўдалося.**





У дварах, куды нас загналі амапаўцы, усе (УСЕ!) дзверы ў пад'ездах былі адчыненыя. Гэта ратуе ад карнікаў такіх, як я, хто не ўмее хутка бегаць. Паглядзеўшы ўвечары здымкі і рэпартажы з асноўных падзей, парадавалася, што некалькі тысячных калонаў, якіх не пусцілі, — гэта кропля ў моры, нават не заўважна ад агульнай колькасці ўдзельнікаў. Нас рэальна мора, а іх — кроплі.

Галавой разумею, што ад мяне мала толку. Трэба пратэставаць не сілай, а розумам, прыдумаць нешта дзейнае і рабіць. Але наступны раз зноў пайду. Бо калі цяпер здацца і далей рабіць праграмы для настаўнікаў, як раней, — значыць, прызнаць, што нічога не змянілася, і ад гэтых праграмаў няма ніякага толку. Цяпер проста немагчыма не зрабіць выбар. Вярнуцца да будзённай працы і дзюбаць паціху тое, што дзюбалі шмат гадоў паўпадпольна, — гэта значыць рабіць выгляд: няма нічога страшнага, што нашых дзяцей калечаць. Кожны дзень па паўтысячы. Што пачалі спачатку знішчаць моладзь — хапалі хлопцаў, цяпер масава садзяць дзяўчатак, якія не нараджалі, каб трымаць іх у холадзе і інфекцыях, потым дабяруцца да ўсіх астатніх. Хто думае адседзецца — не ўдасца. Пад нож лукашэнкаўскай машыны пойдуць і сведкі яго злачынстваў — сябры камісій, выканаўцы катаванняў. Узгадайце 1937-мы. Сведкаў не пакідалі.

Калі цяпер створаны невыносныя ўмовы для сумленных настаўнікаў, адбываецца іх выцясненне, замяшчэнне халуямі, то ніякага толку ад праграм ТБШ і іншых форумаў «давайце пагаворым пра методыкі і павесялімся» — не будзе. Для каго яны, гэтыя праграмы? Калі не застанецца ў школах нармальных настаўнікаў, пра якія методыкі гаворка? Для каго тыя методыкі, калі праз паўгода, калі цяпер не задушым дыктатуру, дзяцей нармальныя людзі вывезуць за мяжу, каб уратаваць, а ў краіне застануцца толькі алкашы і пенсіянеры? Каго будзем вучыць, людзі?

Таму сёння ад кожнага з нас залежыць, у якой краіне мы будзе жыць заўтра. Каго будзем вучыць, каму прысягаць, з кім жыць па суседству. Часу на роздум больш няма і адседзецца не ўдасца нікому.

**Фота Дзмітрыя Дзмітрыева**

18 верасня 2020 | № 35 (694) Новы Час

# Купалаўскі сёння жывы, як ніколі»

Ганна СЕВЯРЫНЕЦ

**Чамусьці цяпер, калі ў прэсе кажуць пра Купалаўскі тэатр, які сёння адсвяткаваў стагоддзе, дадаюць азначэнне «разгромлены».**




З пункту гледжання публіцыстычнага тэксту яно, здавалася б, і правільна: той Купалаўскі, куды можна было рэспектабельна прыйсці па набытых квітках, прайсціся па фае і калідорах, сесці ва ўтульныя крэслы і глядзець спектакль, аздоблены апошнімі тэхнічнымі навінкамі мадэрнізаванай сцэны — сапраўды разгромлены.

Але з пункту гледжання праўды жыцця — Купалаўскі сёння жывы, як ніколі.

Я глядзела першы пасля разгрому купалаўскі ролік: пазбаўленыя сцэны акцёры чытаюць «Сымона-музыку» Якуба Коласа.

Поле, неба, вецер, шэсць жалезных бочак — іх дэкарацыі. Суровы барабанны рытм — іх музычнае афармленне. Паўсядзённыя простыя строі — іх касцюмы. Жывыя твары без грыму. І тэкст — прачытаны ўсімі разам, калі ўсе — як адзін. Ніякіх роляў, ніякіх амплуа, ніхто не першы, ніхто не апошні, агульны голас Купалаўскага тэатру, адзін — на ўсіх, як у антычным хоры.

Шэкспір казаў некалі: «Увесь свет — тэатр, а людзі ў ім — акцёры». Часы цяпер змяніліся. Купалаўцы сведчаць: тэатр — гэта ўвесь свет, і акцёры ў ім — людзі. Умоўнасць тэатральнай пастаноўкі, сімволіка касцюмаў, чарграванне мізансцэн і прыёмаў, музычныя і відэаэфекты — усё тое, што адмяжоўвае сцэну ад жыцця — цяпер не існуе, бо не патрэбна. Жыццё павінна прамаўляць менавіта так — само за сябе.

Ці ёсць сярод п'ес, напісаных для тэатраў, п'еса больш драматычная, чым тая, якая была складзена самім жыццём? Гэты сюжэт разгортваўся на нашых вачах, імклівa і ўзрушальна, і адарвацца ад яго было немагчыма: звальненне дырэктара, салідарнасць трупы, сцягі на даху, заблакаваныя дзверы, акцёры на вуліцы, заявы на звальненне, варта Спеўнага сходу пад сцэнамі, адмена тэатральнага сезону — і ўсё гэта ў юбілейныя дні! Хацеў бы — не прыдумаў. Ці ёсць сярод шматлікіх герояў і гераінь колішніх пастановак такія безумоўныя героі, шчырыя і сапраўдныя ў кожным сваім учынку, у кожным сваім слове — і ў сваёй роспачы, і ў сваім жалю, і ў сваёй жывой, а не ўмоўнай нескаронасці? Напісаў бы такіх — сказалі б, у жыцці так не бывае. Занадта гераічна. А яно, аказваецца, бывае.

У юбілейным выступе купалаўцаў, першым анлайнавым выступе нібыта разгромленага тэатра, мяне моцна ўразілі іх галасы. Той Купалаўскі, куды мы хадзілі раней, заўсёды вылучаўся асаблівай стылістыкай сцэнічнага маўлення: акцёры на сцэне заўсёды прамаўлялі гучна, і не баяліся сарвацца нават на крык. Ранейшае купалаўскае слова на сцэне заўсёды цяжка важыла. Цяпер яны чытаюць «Сымона-музыку» ціха. Ім не трэба перакрываць словам дэкарацыі, касцюмы, тэхніку і электроніку. Яно важкае, нават калі шэптам.

Я цяпер бачу на гэтай купалаўскай сцэне, той, дзе поле, неба і вецер, іх саміх, жывых людзей з іхным болем і іх пакутай, якая цяпер у нас — адна на ўсіх. Не прыдуманых гераінь чужых п'ес, а мужчын і жанчын, што жывуць з намі побач нашым жыццём: збіваюць ногі на маршах, бягуць ад аўтазакаў, становяцца ў счэпкі, вагаюцца на эмацыйных арэлях ад «нас усіх расстраляюць» да «мы пераможам» — і чытаюць «Сымона-музыку», нібыта гэта не тэкст, які напісаў сто гадоў таму школьны класік, а вой ветру альбо гул далёкага бору. Яно менавіта такое, нашае жыццё, тэатр нічога не прыдумаў, але сканцэнтраваў і паказаў нам самім — без усялякай тэатральнай умоўнасці.

Я ведаю, што менавіта пра такі тэатр марылі Чэхаў, Брэхт, Купала, Вампілаў — каб ён быў як жыццё. І ўсё адно ані драматургі, ані тэатральныя рэжысёры не маглі пазбегнуць умоўнасці тэатральнай сцэны. Купалаўцы зруйнавалі ўмоўнасць. Яны цяпер — жыццё.

Я любіла і той Купалаўскі, неразгромлены. Але разгромленым я люблю яго яшчэ больш. Ён цяпер як мы — спакутаваны, пасталелы адразу на дзясяткі гадоў, стомлены, устрывожаны, пазбаўлены ўпэўненасці. Але — непераможны.

**Радыё Свабода**

# Потым адзін сказаў: «Зараз зробім з цябе дзяўчынку»

**Гэта расповед Уладзіміра Піліпейкі, 33-гадовага жыхара Калінкавічаў:**

— 13 жніўня каля 16 гадзін я прыехаў да сябра ў Мазыр на бульвар Юнацтва. А за два дні да таго, увечары 11 жніўня, менавіта гэтым бульварам ішла вялікая калона пратэстоўцаў. Пасля сустрэчы з сябрам, гадзін каля 18, калі яшчэ свяціла сонца, я выйшаў на бульвар, каб ісці на аўтобусны прыпынак.

У мяне ціўкнуў тэлефон, я зайшоў у яго і пачаў чытаць паведамленне. У гэты момант міма мяне марудна праехала цывільная «лада-прыёра» на расійскіх нумарах. Я зірнуў на яе і зноў апусціў вочы ў тэлефон. І раптам на мяне накінуліся чатыры чалавекі ў чорнай форме без ніякіх значкоў, зорачак ці лычак, у кепках і чорных масках, як ад каранавіруса. Яны выскачылі з той «лады». Паклалі мяне тварам у асфальт і заламалі рукі, а потым пацягнулі ў машыну. Пасадзілі паміж сабой на заднее сядзенне. Ужо калі ехалі, яны шукалі ў сябе кайданкі і, знайшоўшы, надзелі іх мне на рукі за спінай.

Мяне прывезлі ў Мазырскі РАУС. Правялі праз турнікет, павярнулі на лесвіцу і тут жа, на пляцоўцы перад прыступкамі, павалілі на падлогу тварам уніз, нацягнулі на галаву куртку і пачалі біць. Пры гэтым я не мог нават прыкрывацца, бо мае рукі былі скаваны за спінай. Я не бачыў, чым мяне білі, але некаторыя ўдары былі як выспяткі, а некаторыя зверху па спіне, ягадзіцах, нагах, відаць, міліцэйскім гумавым дручком.

Потым мяне паднялі і пацягнулі на трэці паверх. Зацягнулі ў нейкі вялікі кабінет. Відаць, нейкага начальніка, бо я паспеў убачыць вялікі стол і шэрагі крэслаў уздоўж сценаў. Тут зноў паклалі на падлогу тварам уніз і нацягнулі на галаву куртку. Спачатку пагражалі, што, маўляў, я ўжо «накрычаў на 3 гады», а зараз яны аформяць і на «дзясятачку».

Пачалі абшукваць, спыталі, дзе тэлефон. Але яго ў мяне выхапілі яшчэ пры затрыманні. Я не бачыў твараў, спачатку бачыў толькі ногі, бо галава была прыгнутая долу і прыціснутая да падлогі чыёйсці нагой, а потым увогуле нічога не бачыў, бо на галаве была куртка. Толькі чуў, што тыя, хто мяне біў, звярталіся да кагосьці «таварыш палкоўнік». Калі прынеслі мой тэлефон, ад мяне пачалі патрабаваць пароль. А мой тэлефон можна было разблакаваць сканерам пальца альбо сканерам твару, альбо паролем. Яны спачатку паднеслі да пальца, але тэлефон не разблакаваўся, потым да твару, але, відаць, пасля таго, што адбылося, мой твар мала быў падобны да таго, які «памятаў» мой тэлефон.

Тады апарат запатрабаваў увесці лічбавы пароль. Я адмаўляўся казаць. Тады мяне зноў пачалі біць дубінкамі і нагамі. У выніку я мусіў сказаць пароль. Міліцыянты разблакавалі тэлефон і са словамі: «Так, зараз пачытаем, што ты тут пішаш!» пачалі адкрываць у тэлефоне розныя праграмы.

І раптам — моцны ўдар па галаве. Я знепрытомнеў. Што было далей, не памятаю. Відаць, потым на мяне плюхнулі вады, бо, калі прытомнасць вярнулася, я адчуў, што мокры. Мне пачалі казаць, што зараз панапісваюць ад майго імя, што я паеду на 10 гадоў. Корпаліся ў маёй тэлефоннай кнізе, пытаючы, хто ў мяне як падпісаны, і правяраючы іх недзе. Шмат разоў казалі: «Здасі вашага каардынатара, і мы цябе адпусцім». Але я казаў, што я не ведаю ніякіх каардынатараў, я прыехаў з Калінкавічаў да сябра і не ўдзельнічаў ні ў якіх акцыях. Потым я пачуў, што яны размаўлялі аб прэзерватыве, а потым адзін з іх сказаў, звярнуўшыся да мяне: «Зараз зробім з цябе дзяўчынку». Але нехта сказаў ім, што не трэба. Мяне зноў паднялі і некуды пацягнулі. Вывелі на вуліцу. Ужо было зусім цёмна.

Мяне перавялі праз вуліцу ў будынак насупраць райаддзелу міліцыі. Завёўшы ў нейкі пакой у тым будынку, мяне зноў кінулі на падлогу тварам уніз. Я паспеў заўважыць толькі нейкую даволі маладую жанчыну ў званні маёра, і побач са мной на падлозе ляжаў яшчэ адзін чалавек. Калі на падлогу ўпаў я, таго чалавека паднялі і павялі.

Я пачуў голас жанчыны-маёра: «А! Калінкавіцкі! Зараз мы табе пакажам мазырскую гасціннасць! Цяпер вядзіце сабак!»

Я падумаў, сапраўдных сабак, зараз разарвуць. Але прыйшлі людзі. Мяркуючы па тупаце і галасах — шмат людзей. І пачалі вельмі моцна мяне біць. Нехта, відаць, малаціў дручком, нехта проста нагамі. Потым я адчуў, што па мне прайшліся абцасамі. Я думаю, што гэта тая жанчына, бо абцасы адчуваліся танчэйшыя, але даўжэйшыя за абцасы берцаў. Яна ж, відаць, трапіла мне наском абутку ў скронь, бо насок быў востры, не як у берца. Я некалькі разоў траціў прытомнасць. Ачухваўся, калі мяне аблівалі вадой.

З носу проста ручаём бегла кроў, твар ляжаў у крыві. Тая жанчына казала: «Ты пашкадуеш, што сюды прыехаў!» Потым зноў шмат удараў адразу ад некалькіх чалавек. Я моцна закрычаў і зноў знепрытомнеў. Потым паступова вярнуўся ў прытомнасць. Адчуў, што мне ў спіну і ніжэй штурхаюць нечым, мабыць, дручком. Было вельмі балюча, магчыма, ад болю я і ачуўся. Потым яны ўзялі маю галаву і трэслі яе. Я расплюшчыў вочы. Зноў пачуў жаночы голас: «Хопіць, сыходзьце!». Пасля нейкі мужчына ў цывільным мяне падняў. Сурвэткай працерлі твар ад крыві. З мяне бегла вада, і яны ёю размазвалі кроў.

Затым мяне вывелі ў двор гэтага будынку. Там знялі кайданкі, з шыі знялі ланцужок і крыжык і павялі ў ізалятар часовага ўтрымання, які знаходзіцца крыху правей ад РАУС. Я не мог стаць на левую нагу, каб пераступіць нейкі невысокі парканчык, праз які мы пераходзілі, дык міліцыянты перакінулі маю нагу.

У ІЧУ на мяне склалі пратакол за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. Загадалі падпісаць. Пры гэтым прыгразілі, што, калі не падпішу, працягнуць збіваць.

Потым мяне завялі ў 12-ю камеру. Там ужо былі тры хлопцы маладыя. Усе таксама пабітыя. Адзін крыху меней. Ён сказаў, што не варта было трываць, трэба было адразу моцна крычаць. Ён крычаў, і таму яго меней білі.

На раніцу, не даўшы ні паесці, ні папіць, мяне завезлі ў суд. Прозвішча суддзі не памятаю, гэта была мажная такая жанчына. Ніякіх ні папераў пра вынікі суду, ні копіяў пратаколаў мне не далі.

Суд доўжыўся мо якія хвіліны дзве. Мне далі 15 сутак. Прывезлі назад у камеру. Там хлопцы паказалі, што ў мяне ўся шыя ў крыві. Цікава, што гэтага не заўважыла суддзя. Ці зрабіла выгляд, што не заўважыла. Але праз тры дні мяне вызвалілі. Я выйшаў з ІЧУ — і здзівіўся. Там было шмат людзей. Былі валанцёры, якія прапанавалі адвезці, куды мне трэба, прапаноўвалі ежу і піцво, былі псіхолагі. Нас сустракалі як герояў.

Медыкі дыягнаставалі ў мяне закрытую чэрапна-мазгавую траўму, страсенне мазгоў, шматлікія кровападцёкі і гематомы. Дагэтуль адчуваю галавакружэнне і млоснасць. Баліць хрыбетнік. Мне прызначылі МРТ усяго цела.

Калі я быў у ІЧУ, мяне вазілі на медыцынскі агляд у лякарню. Там я нічога не казаў пра збіццё, бо баяўся, што потым трэба было зноў вяртацца ў міліцыю. Але пазней да мяне ў ІЧУ прыходзіў следчы, апытваў наконт збівання. Я расказаў яму, як было. Цяпер ён мне тэлефануе, просіць прыехаць у Мазыр, каб зноў даць нейкія паказанні. Але я баюся. Ходзяць размовы, што тых, хто зноў трапляе ў гэтыя ўстановы, затрымліваюць і выпраўляюць у міліцыю. А што там будзе адбывацца, можна толькі здагадвацца. Яны пастараюцца зрабіць усё, каб схаваць свае злачынствы і каб пра іх не стала вядома.

**Палеская Вясна**

# Пяць гадоў без Караля

## Але сёння ён усміхаецца ўсім нам як ніколі

Аксана КОЛБ

**Час бяжыць. Ужо пяць гадоў з намі няма нашага галоўнага рэдактара. Няма нашага Караля. У гэтыя дні, бадай, як ніколі я шкадую, што яго няма з намі. Што ён не бачыць — мары здзяйсняюцца.**





19 снежня 2010 года

Фота www.tut.by

Аляксей быў «шасцідзясятнікам», тым, хто паспеў зрабіць кароткі ўдых вольнага паветра хрушчоўскай адлігі. І, напэўна, той глыток свабоды на ўсё жыццё захаваў у ім веру ў лепшую будучыню і рэальнасць дэмакратыі. Ён верыў у незалежную дэмакратычную Беларусь, верыў у светлую і шчырую душу беларусаў. Верыў — і крок за крокам набліжаў лепшыя часы, як мог. Ці то ў дзейнасці партый і рухаў, ці то як рэдактар незалежных медыяў, ці то як удзельнік безлічы акцый пратэсту.

Сёння, калі б Аляксей быў побач, ён бы абавязкова быў на ўсіх маршах, стараўся б падтрымаць калег, сяброў і проста выпадковых людзей у судах. І, безумоўна, ганарыўся б беларусамі, якія нарэшце сталі нацыяй, аб'ядналіся і зрабілі вялізарны крок да Новай Беларусі. Той Беларусі, якой будуць ганарыцца ўсе наступныя пакаленні, у якой будуць жыць вольныя, шчырыя і чуллівыя людзі, здольныя зрабіць так шмат для сваёй краіны, што ўвесь свет пазайздросціць.

Усё сваё жыццё Аляксей верыў у такую Беларусь, усё сваё жыццё за яе змагаўся. Сёння, напэўна, ён глядзіць на нас з Нябёсаў і задаволена ўсміхаецца. А яшчэ просіць нас не здавацца і ісці да канца. Не спыняцца! Верыць у сябе, у нашу перамогу, у лепшую будучыню для Беларусі. Як верыў ён.

Гэты артыкул быў напісаны Аляксеем Каралём праз год пасля Плошчы 2010. Той змрочны год, які прайшоў пад знакам рэпрэсій і дэпрэсій. Але нават тады ён не губляў надзею, ён бачыў праблескі нашай Новай Беларусі. Проста пачытайце.

### Вобраз Плошчы–2010

**Аляксей Кароль, 16 снежня 2011**

Плошча–2010 — менавіта пад такой назвай драматычныя падзеі на плошчы Незалежнасці 19 снежня 2010 года ўжо ўвайшлі ў гісторыю. Але не адбалелі, не забыліся, не сцішыліся. Яны застаюцца жывой, пульсуючай з'явай сучаснасці, якая ўплывае на стан грамадства, на лёсы людзей і лёс краіны.

Вобраз Плошчы–2010 у трактоўцы афіцыйных структур — спроба перавароту. Вобраз Плошчы–2010 ва ўспрыняцці беларускай грамадскасці — спроба мірнага выхаду з таталітарнага тупіку, у які Беларусь затрымалася на лішніх 20 гадоў.

На Плошчы–2010 сышліся ў адзіным парыве беларускі адраджэнскі рух да незалежнасці, дэмакратычныя памкненні грамадства да свабоды і сацыяльныя жаданні насельніцтва.

Плошча–2010 у колькасці блізу 40 тысяч чалавек — гэта стыхійны ўсплёск сацыяльнай энергіі пратэсту. Яна выявіла, што рэпрэсіямі і прапагандай не ўдалося нейтралізаваць ні грамадскія арганізацыі, ні незалежныя СМІ, што слой адданых прыхільнікаў рэжыму вельмі вузкі, што сацыяльны пакет — замалы, а рэсурс вычарпаны, што маўклівая большасць пераўтварылася ў маўклівую меншасць, што прапаганда струхлела, а рэпрэсіі ў параўнальна мяккім фармаце ўстойлівага эфекту не далі.

Адсюль інстынктыўны разварот да эскалацыі рэпрэсій з пашырэннем маштабу і ўзмацненнем жорсткасці. Адчайная спроба рэжыму вярнуць найперш баланс страху і, праз прапаганду, даверу да сябе, дакладней, веры, хаця б і безнадзейнай, у сваю моц і непахіснасць.

Плошча–2010 — гэта народ, а не насельніцтва. Асобы, а не статысты. Ахвяры, прызначаныя рэжымам на закланне ў ролі злачынцаў, паводзілі сябе не так, як разлічвалі арганізатары судзілішчаў. У турэмных камерах КГБ, падчас судоў і ў калоніях большасць з палітвязняў выявілі сябе мужнымі і нязломнымі, з пачуццём уласнай годнасці. Пад ціскам і катаваннямі не зламаліся, ні на каго, у тым ліку і на сябе саміх, не ўзвялі паклёп, адмовіліся падпісаць прашэнне аб памілаванні.

Яны — твары плошчы. Такія прыгожыя і прыязныя, спакойныя і ўсхваляваныя, натхнёныя і ўдумлівыя, стрыманыя і ўсмешлівыя. Падаецца, што на кім бы ні спыніўся злавесны выбар рэжыму — вынік быў бы той жа.

Гэта яшчэ і паказнік узроўню маральнасці валанцёраў Плошчы, які не парушаецца нават пакаяльнымі заявамі і подпісамі аб супрацоўніцтве з КДБ некаторых з палітычных вязняў. Грамадства ўспрыняло гэтыя эпізоды як яскравы знак самавыкрыцця рэжыму, як вяртанне да метадаў НКУС 1937 года. І здрыганулася.

Як маральнасць адных і амаральнасць другіх успрыняло грамадства напад спецкаманды сілавых структур увечары 19 снежня на групу кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева, яго збіццё да беспрытомнасці, з наступным арыштам і выкраданнем са шпіталя. І як расправу А. Лукашэнкі над сваімі апанентамі — прысуды кандыдатам у прэзідэнты Мікалаю Статкевічу, Андрэю Саннікаву, Дзмітрыю Усу, Алесю Міхалевічу, Віталю Рымашэўскаму.

Гэтыя арышты і прысуды дэманструюць яшчэ адну жахлівую рысу таталітарных рэжымаў — захоп і гандаль закладнікамі. Яшчэ і па сёння за калючым дротам знаходзяцца 14 чалавек, уключна з Міколам Статкевічам і Андрэем Саннікавым. Вялікі неспакой выклікае здароўе і жыццё лідара «Маладога фронту» Змітра Дашкевіча, які церпіць катаванні і бесчалавечнае абыходжанне. Гэтак жа, як і лідара грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Змітра Бандарэнкі, які перанёс цяжкую аперацыю на хрыбце, ходзіць на мыліцах і рызыкуе выйсці з турмы інвалідам. Трэці год за кратамі пакутуе Мікалай Аўтуховіч, якога спрабавалі падвесці пад абвінавачванне ў падрыхтоўцы тэрарыстычнага акта. Арышт старшыні праваабарончай арганізацыі «Вясна» Алеся Бяляцкага ёсць непасрэдны працяг Плошчы–2010.

Можна меркаваць, што рэжым А. Лукашэнкі выйграў гэты раўнд барацьбы. У тым сэнсе, што яму ўдалося пакуль што стрымаць нарастаючую хвалю пратэстаў і вярнуць узровень страху і апатыі ў грамадстве на ранейшую адзнаку. Але як надоўга? І ці не пірава гэта перамога?

Так, Мядзведзеў і Пуцін выдалі А. Лукашэнку карт-бланш падтрымкі ў выглядзе эканамічных прэферэнцый у абмен на падпісанне ўсяго пакета дакументаў па АДКБ, а потым і на стварэнне Еўразійскага саюза. Па сутнасці, у абмен на поўную васальную залежнасць. З дазволам, паводле трапнага выказвання аднаго з расійскіх палітолагаў, праводзіць «лібералізацыю — дзе можна, а рэпрэсіі — дзе трэба». Але, падаецца, карт-бланш гэты не на бестэрміновае ўладаранне. Васала лягчэй замяніць, калі стане няўгодным. Аднačасова разгромам Плошчы Лукашэнка цалкам абарваў усе магчымасці сваёй гульні на Захад.

Вынікі нядаўніх думскіх выбараў у РФ, азначаныя падзеннем рэйтынгу кіроўнай групоўкі і хваляй шматтысячных мітынгаў, могуць падштурхнуць пуцінскую Расію на паскоранае ўмацаванне сістэмы «кіруемай дэмакратыі» на ўзор беларускай, але могуць (што таксама не выключана) наадварот, прымусіць пачаць рэформы.

Разгром Плошы–2010 датуе сабой пачатак канца беларускай мадэлі палітычнай сістэмы. Якім бы ні быў гэты канец: ці тое па найгоршым сцэнары — пераўтварэнне Беларусі ў абсалютна залежнага васала Расіі з захаваннем фармальнага суверэнітэту, ці па аптымістычным — дэмакратычных пераўтварэнняў з умацаваннем суверэнітэту і сваім дастойным месцам у еўрапейскай супольнасці.

Аргументаў на карысць аптымістычнага сцэнару дадае, нягледзячы на разгром, і Плошча–2010, пастаўленая ў кантэкст падзей гісторыі найноўшага часу. Дзяды–1988 можна лічыць пачатковай датай гэтага перыяду руху Беларусі да дэмакратыі і суверэнітэту. Менавіта з таго — таксама разгромленага — шэсця на Курапаты вырасла перамога абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Вынікі выбараў 1994 года, і асабліва так званы рэферэндум лістапада 1996 года, датуюць сабой пераход у наступ рэакцыйных сіл. Шматтысячныя «Маршы свабоды» ўвасабляюць масавы супраціў гэтаму наступу. Потым быў спад. Плошча–2006 — новы пад'ём. Зноў — спад. Плошча–2010 — новы ўсплёск.

Зараз — зноў спад? Вонкава — так. Але жыццё штодня дэманструе нам, а сацыялагічныя датчыкі фіксуюць, імклівае пашырэнне пратэставых настрояў, якія на пранізлівых вятрах усеагульнага крызісу, пад ударамі цунамі інфляцыі і росту цэн могуць у любы момант сарвацца з пасіўнай фазы ў актыўную. Палітычны барометр паказвае на вясну. Энергія Плошчы–2010 не знікла бясследна.



# У сітуацыі хісткай раўнавагі

Сяргей ПУЛЬША

**Апошнім часам у тых, хто даволі ўважліва сочыць за палітычнымі падзеямі ў краіне, узнікае ўражанне, што сітуацыя перайшла ў фазу хісткай раўнавагі. Нібыта ўсе пры справе: людзі гуляюць, АМАП за імі бегае, суддзі судзяць, палітвязні сядзяць.**

Нягледзячы на «застотысячныя» нядзельныя мітынгі і новыя крымінальныя справы, у краіне кардынальна нічога не мяняецца. З аднаго боку, ва ўлады няма іншага інструментару, апроч рэпрэсій. З іншага, кветкі ды стужкі на платах вуліц супраць дубінак — таксама не лепшая зброя.

Наколькі гэтая раўнавага хісткая і колькі яна будзе трымацца?



### «Пакуль што ўтрымаўся»

Палітолаг Аляксандр Класкоўскі заўважае, што цяпер сапраўды такая сітуацыя, што палітычны ўздым працягваецца, багата людзей выходзіць на мітынгі і акцыі салідарнасці ў Мінску і ў рэгіёнах. Але, з іншага боку, відавочна, што рэвалюцыя ўперлася ў моцную сцяну рэжыму Лукашэнкі.

«Усё ж, як сцвярджае паліталогія, каб перамагла нейкая рэвалюцыя са зрынаннем аўтарытарнага рэжыму, акрамя такога магутнага палітычнага ўздыму трэба, каб утварыўся раскол у элітах, каб сталі вагацца ці пераходзіць на бок народа сілавікі. Такой з'явы, як раскол эліт, мы ў класічным сэнсе не назіраем», — заўважае ён.

Канешне, кажа палітолаг, ёсць пэўная «эрозія элітаў» — некаторыя прадстаўнікі сілавікоў, дзяржаўныя журналісты, селебрыці, блізкія да ўлады, асудзілі пратэсты, звольніліся са сваіх пасадаў, але гэта — не масавая з'ява. «У цэлым вертыкаль захоўвае лаяльнасць і паслухмянасць Лукашэнку, сілавікі працуюць сваімі метадамі па поўнай праграме таксама паслухмяна, а многія і з імпэтам, выконваюць задачы, якія пастаўленыя ім правадыром рэжыму», — заўважае ён.

Па меркаванні Класкоўскага, пакуль можна сказаць, што Лукашэнка ўтрымаўся, — насуперак занадта аптымістычным і эйфарычным прагнозам, якія гучалі ў жніўні. «Колькі ён пратрымаецца — гэта пытанне адкрытае, і залежыць ад шэрагу чыннікаў. У першую чаргу — ад пратэставага руху, ад яго канкрэтных формаў. Многае будзе залежаць і ад знешніх гульцоў. Захад пакуль асцярожны, Крэмль заклапочаны не развіццём сітуацыі ў Беларусі, а, па-першае, каб тут не перамагла рэвалюцыя, бо гэта кепскі прыклад для расіянаў, і, па-другое, магчыма, каб забяспечыць кантраляваны транзіт улады з прыходам нейкай лаяльнай да Масквы фігуры. Мы бачым, што вельмі складаная канфігурацыя цяпер, вельмі дынамічныя і няпэўныя чыннікі, якія дзейнічаюць у ёй, таму казаць пра нейкія тэрміны і формы вырашэння палітычнага крызісу пакуль вельмі цяжка», — гаворыць Класкоўскі.

**Эканоміка — гэта першае, што грае супраць Лукашэнкі. Незалежныя эксперты падкрэсліваюць: насоўваецца вельмі сур'ёзны крызіс. Тут нават не трэба быць адмыслоўцам. Дый наступствы каронавіруса ніхто не адмяняў**

### Як расколоць эліты

Для таго, каб аформіўся раскол элітаў, гэтым элітам трэба нешта прапанаваць — бяспеку, недатыкальнасць, пэўны імунітэт ад рэпрэсій і судовага пераследу. Захаванне маёмасці, урэшце. Але гэтага цяпер у пратэстнага руху бракуе. Многія аналітыкі захапляліся «дэцэнтралізацыяй» і «самаарганізацыяй» беларускага пратэсту, але тут ёсць і слабы бок. З кім перамаўляцца той самай эліце пра гарантыі?

Усе, хто мог прапанаваць перамовы, цяпер закратаваныя. У СІЗА Бабарыка і Калеснікава — мірныя правадыры пераменаў. Статкевіч і Севярынец, якія б маглі дамовіцца з «вуліцай», таксама ў зняволенні. Высланая з краіны Святлана Ціханоўская, не вяртаецца Павел Латушка. З чальцоў прэзідыуму Каардынацыйнай рады на волі засталася толькі Святлана Алексіевіч, якая, хутчэй, маральны аўтарытэт, чым дзейсны палітык. Атрымліваецца, элітам проста няма да каго звярнуцца?

Было б жаданне — усё можна знайсці, кажа Класкоўскі. «Калі б была палітычная воля ў Лукашэнкі на сапраўдны дыялог, можна было б знайсці тых, з кім гаварыць. Неабавязкова было ставіць пад крымінальнае праслед прадстаўнікоў Каардынацыйнай рады, ёсць зарэгістраваныя партыі, ёсць шматлікія арганізацыі грамадзянскай супольнасці, і пры жаданні знайсці людзей для дыялогу, — не бутафорскіх персанажаў, а людзей, якія маюць аўтарытэт у грамадстве, якім прыхільнікі перамен маглі б дэлегаваць такія паўнамоцтвы — я думаю, гэта можна было б вырашыць, гэта справа другасная», — лічыць ён.

Але пакуль што Лукашэнка, па меркаванні палітолага, папросту баіцца сапраўднага дыялогу. Бо тыя, хто выйшаў на вуліцы ў жніўні, паставілі перад ім вельмі непрыемныя пытанні: пра яго сыход, пра вызваленне палітвязняў, пра пакаранне тых, хто катаваў людзей, і пра новыя выбары. «Такі пакет патрабаванняў азначае, па-сутнасці, крах Лукашэнкі, крах яго палітычнай кар'еры. А гэты чалавек не мысліць сябе без улады. У гэтым ён нават прызнаецца ў інтэрв'ю Гардону і сказаў, што не ўяўляе, як не быць прэзідэнтам, бо прачынаецца раніцай — і што ж тады рабіць? Каб гэтаму чалавеку было рабіць штораніцы, мусіць пакутаваць 10-мільённы народ», — зазначае палітолаг.

У новай рэальнасці, па словах Класкоўскага, Лукашэнка не бачыць для сябе перспектывы. І не толькі таму, што прызвычаіўся валадарыць, але і проста па сваёй натуры. Лукашэнка — чалавек палахлівы і недаверлівы, а таму са скепсісам будзе ставіцца да любых прапаноў персанальных гарантый бяспекі яму і чальцам яго сям'і. «Бо потым пачнецца дэмакратыя, пачнецца змена кіраўнікоў, і праз нейкі цыкл усё адно яго могуць прыцягнуць да адказнасці, а шкілетаў у шафе ў гэтага чалавека хапае», — зазначае адмыслоўца.

«Ён сапраўды гатовы ўнутрана, псіхалагічна з аўтаматам да апошняга адстрэльвацца, але не здаваць уладу. І вось гэта — драма Беларусі, у гэтым адметнасць і драматычнасць цяперашняга моманту. З аднаго боку — магутны пратэст, мы за апошнія месяцы пабачылі паўставанне палітычнай нацыі ў еўрапейскім сэнсе слова. Грамадства даўно перарасло прэзідэнта заўчорашняга дня, прэзідэнта мінулага тысячагоддзя, але за гэтыя гады ён стварыў сістэму, славы кулак, і саступаць не хоча. І мірны пратэст, як хваля аб скалу, разбіваецца аб маналіт створанай сістэмы», — кажа Класкоўскі.

### Ці трывалы маналіт?

У той жа час палітолаг падкрэслівае — у сістэме могуць ісці разбуральныя для яе працэсы — «вада камень точыць», кажа ён. Для Класкоўскага ў гэтым плане быў паказальны выступ Лукашэнкі пры прызначэнні новага генеральнага пракурора.

«Ён казаў, што, маўляў, калі не хочаце мяне падтрымліваць — ціха адыдзіце ўбок, але не трэба посціць, хайпаваць і гэтак далей. Ён тым самым выдаў свае трывогі і фобіі, што можа трэснуць маналіт. Мажліва, і сярод следчых пракуратуры ідуць нейкія працэсы такога браджэння. Сапраўдныя прафесіяналы не хочуць пэцкацца ў сістэме Лукашэнкі і задумваюцца наконт жыццёвага выбару. Таму ўсё гэта не так трывала, і, адпаведна, пратэсты не такія бесперспектыўныя, як некаму пачынае здавацца», — кажа Класкоўскі.

Прычым, відавочна, чаму Лукашэнка заклікаў нязгодных звальняцца цішком. Кожны прыклад гучнага звальнення паказвае тую самую «неманалітнасць сістэмы», выклікае роздум над падобным крокам у іншых людзей.

### Гадзіннік ідзе

Вывесці сітуацыю, якая склалася ў цяперашні час, з раўнавагі можа любы чыннік. Напрыклад, улады стануць выпускаць палітвязняў «пад падпіску аб нявыездзе» ці распачнуць над імі суды — што выкліча моцную хвалю салідарнасці. Вернуцца з-за мяжы Ціханоўская і Латушка або здарыцца яшчэ нешта, што ўзрушыць народныя масы зноў. Але, па меркаванні Класкоўскага, такія сістэмы хутка не здаюцца. Палітолаг прыводзіць як прыклад Венесуэлу, у якой нелегітымны Нікалас Мадура трымаецца ва ўладзе (таксама не без расійскай падтрымкі) даволі доўгі час.

«Барацьба за свабоду ў такіх краінах — няпросты працэс», — кажа адмыслоўца. Ён нават дапускае, што сённяшняя хваля пратэстаў сціхне. Але праз некаторы час, па яго меркаванні, непазбежна ўзнікне другая хваля, потым трэцяя… І гэтыя хвалі не спыняцца, «бо ў Лукашэнкі няма адказаў на тыя пытанні, якія рубам паставіла перад ім грамадства», — лічыць палітолаг.

«Лукашэнка не ведае, што рабіць з эканомікай, ён не гатовы па-сапраўднаму рэфармаваць палітычную сістэму, а нацыя яго перарасла. Таму гэты канфлікт будзе тлець, і таму рана ці позна ўсё адно гэты рэжым разваліцца, і можна сказаць, што для сістэмы Лукашэнкі пачаўся зваротны адлік», — кажа ён.

Эканоміка — гэта першае, што грае супраць Лукашэнкі. «Незалежныя эксперты падкрэсліваюць: насоўваецца вельмі сур'ёзны крызіс. Тут нават не трэба быць адмыслоўцам: відавочна, што Лукашэнка запусціў эканоміку, неасавецкая мадэль не працуе, на рэформы ён і раней не хацеў ісці, а цяпер — тым больш. Плюс каронавірус. Плюс спаленыя масты ў дачыненнях з Захадам — гэта таксама балюча ўдарыць па знешнеэканамічных сувязях: і крэдытаў не будуць даваць, і інвестыцыі не прыйдуць. Гэта можа, на пэўным этапе, падліць алею ў агонь, і калі грымне нацыянальная забастоўка, калі пралетарыі скажуць сваё важкае слова, безумоўна, тады прыпячэ рэжыму асабліва», — лічыць Класкоўскі.

Такім чынам, час працуе не на сістэму, створаную Лукашэнкам. А народныя пратэсты, якія не спыняюцца па ўсёй краіне, спрыяюць размыванню таго самага «маналіту ўлады», які пакуль што трымаецца, — але рэзерв гэтага трывання не бясконцы.

І любы амапавец, які сёння зразае бел-чырвона-белыя стужкі з плоту ў «скверы імя Ніны Багінскай», на «плошчы Пераменаў» ці «вуліцы імя Машы Калеснікавай», можа задумацца: а яму гэта трэба? Асабліва, калі ён не зможа за свой немаленькі заробак набыць валюту, а беларускі рубель будзе імкліва абясцэньвацца.

# Павольнае падзенне ў прорву

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Вонкавыя назіральнікі ў жаху і роспачы: беларусы за жнівень вынеслі з банкаў больш за мільярд долараў. Але Нацбанк і камерцыйныя банкі, нібыта, і не чухаюцца. Банкаўскія крэдыты «овернайт» (тобок, кароткатэрміновая гатоўка для банкаў) дасягаюць 20%? Асаблівага трывожнага звону таксама не бачна... «Новы Час» вырашыў разабрацца ва ўсёй супярэчлівай інфармацыі з эканамістам Львом Марголіным, каб вырашыць, што цяпер больш надзейна: дэпазіты або «скарбонка пад коўдрай», і ці варта закупляцца доларамі, калі курс знізіўся.**



***— Леў Фёдаравіч, з аднаго боку, адток дэпазітаў з банкаў за жнівень склаў 624 мільёны долараў і 972 мільёны рублёў. Сума значная, але ж у нас і раней летам людзі забіралі грошы, каб выдаткаваць іх на адпачынак?***

— Перш за ўсё, трэба сказаць, што гэтыя грошы нікуды не сышлі: іх проста пераклалі з адной кішэні ў іншую. Таму такі адток моцна не паўплывае на эканоміку. Іншая справа, што калі ў далейшым гэтая тэндэнцыя будзе працягвацца, то ў банкаў будуць скарачацца абаротныя сродкі, і яны не змогуць выдаваць крэдыты прадпрыемствам. Тут пытанне — ці змогуць прадпрыемствы абысціся без крэдытаў або не. Калі не змогуць, то давядзецца нешта рабіць. Альбо абмяжоўваць зняцце дэпазітаў, альбо ўключыць друкавальны станок і дадрукоўваць грашовую масу.

Хутчэй за ўсё, будуць уключаць друкавальны станок, таму што тыя грошы, якія людзі здымаюць з дэпазітаў, вялікага ўплыву на інфляцыю не аказваюць. Яны і так, хоць на дэпазітах, хоць у кішэнях, прызначаліся не для бягучага попыту, а для зберажэнняў, і таму на рынак іх выкідваць не будуць. Я думаю, дзяржава досыць спакойна заменіць гэтую грашовую масу надрукаванымі сродкамі. Калі яна гэта будзе рабіць досыць акуратна і ўмерана, то вялікага ўплыву на сітуацыю на рынку гэта не акажа.

Я б наогул прымірыў гэтыя дзве пазіцыі — і алармісцкую, і аптымістычную — тым, што сітуацыя ў нас сапраўды не добрая, і нават пра стагнацыю мы будзем марыць. Будзе рэцэсія — гэта значыць, змяншэнне аб'ёмаў вытворчасці. Але гэта будзе, хутчэй за ўсё, адбывацца досыць павольна. А калі Лукашэнку ўдасца ў Расіі чаго-небудзь выканькаць — акрамя таго мільярда, які сыдзе на рэфінансаванне доўгу, і які Масква перакладзе з адной сваёй кішэні ў сваю ж іншую, — то да канца гэтага года, і, можа быць, нават першы квартал наступнага года нам удасца пражыць без асаблівых узрушэнняў.

***— Спыненне крэдытавання стратных прадпрыемстваў — ці не пра гэта ўсе вушы прагулі незалежныя эканамісты? Цяпер, вы кажаце, гэта будзе адбывацца натуральным шляхам...***

— Эканамісты пра гэта, вядома, гаварылі, але пра гэта не марыў Лукашэнка. Калі назапашваюцца самазвалы на складах БелАЗа, калі не прадаюцца трактары МТЗ і аўтобусы МАЗа, — ім жа за нешта трэба купляць матэрыялы і сыравіну, плаціць за электраэнергію... Без крэдытаў яны ніяк не абыдуцца, інакш рабочыя дакладна выйдуць на вуліцы, і тады іх ужо не спыніш.

Акрамя таго, у крэдытах маюць патрэбу не толькі стратныя прадпрыемствы, крэдытаваць трэба і прыбытковыя. Таму што ніводнае даволі буйное прадпрыемства не ў стане трымаць столькі абаротных сродкаў, каб яму зусім не трэба было звяртацца да крэдытавання.

***— Стаўка на міжбанку, крэдыты «овернайт», калі банкам была патрэбная гатоўка, дасягалі 20–25% гадавых. Гэта таксама выклікала паніку і трывогу — маўляў, грошы заканчваюцца...***

— З чаго гэта адбылося — падрабязнасцяў мы не ведаем, але тое, што было на рынку пару тыдняў таму — гэта быў, па-мойму, ажыятажны попыт. І Нацбанк слушна рабіў, што не даваў рублёвыя рэсурсы, і прымушаў банкі купляць іх па завоблачных цэнах. Бо рэгулятар небеспадстаўна падазраваў, што камерцыйныя банкі выкарыстоўваюць гэтыя рэсурсы для куплі валюты. Гэта значыць: «Я зараз вазьму 10 мільёнаў рублёў, куплю 4 мільёны долараў, а праз два тыдні прадам долары па вышэйшым курсе і зараблю».

Калі гэта сапраўды быў ажыятажны попыт, міжбанкаўскія крэдыты прыйдуць у норму. А калі акажацца, што гаворка ўсё ж ідзе пра недахоп рублёвых рэсурсаў у эканоміцы, у прыватнасці таму, што народ свае дэпазіты здымае — тады Нацбанку адмаўчацца не атрымаецца. Нешта давядзецца вырашаць, і я думаю, што такім рашэннем будзе ўключэнне друкарскага станка.

***— Па-мойму, пра тое, што ў банкаў сапраўды не хапае грошай, сведчыць спыненне камерцыйнымі банкамі крэдытавання насельніцтва на спажывецкія патрэбы, і кароткатэрміновыя дэпазіты на месяц пад 20% гадавых, што з'явіліся цяпер...***

— Гэта сапраўды кажа пра тое, што рублёвая ліквіднасць у банкаў паменшылася. Ім, у прынцыпе, усё роўна, браць гэтую ліквіднасць у Нацбанка або іншых камерцыйных банкаў пад 20–25% гадавых, або купляць іх у насельніцтва. Бо што такое, па вялікім рахунку, дэпазіт, тым больш на кароткі тэрмін? Гэта тая ж самая купля рублёвай наяўнасці ў насельніцтва. Яны і купляюць пад 20% гадавых на месяц ці на 35 дзён, а там паглядзяць: можа, прапанаваць нешта і на большы тэрмін. А там, можа быць, атрымаецца перакрэдытавацца пад меншы працэнт...

Банкі імкнуцца праводзіць гнуткую палітыку і шукаць грошы ўсюды, дзе яны ёсць. Яны ведаюць, што ў насельніцтва гэтыя грошы ёсць, бо насельніцтва вынесла з банкаў дэпазітаў амаль на мільярд рублёў. Яны разумеюць, што пад 12–13% гадавых ніхто ў банк грошы не панясе, але спадзяюцца, што ажыятаж спадзе, і потым, можа быць, можна будзе ўгаварыць пакінуць грошы на тры месяцы пад 18%, ну і гэтак далей.

***— Нядаўнія скачкі курсаў долара і еўра — наколькі яны небяспечныя для эканомікі? Асабліва ўлічваючы тое, што праект бюджэту на 2020 год прадугледжваў долар па 2.24, а цяпер ён ужо за 2.50, і гэта яшчэ не канец года?***

— Гэта, вядома, небяспечна для эканомікі. І я б не сказаў, што гэтыя скачкі — нейкія спекулятыўныя дзеянні банкаў, пра якія ішла гаворка вышэй. Гэта цалкам абгрунтаваная рэч — паступленне валюты ў краіну скарачаецца, а патрэба ў гэтай валюце скарачаецца больш павольна. Трэба купляць сыравіну, рэсурсы, неабходна абслугоўваць валютныя крэдыты, аддаваць па іх працэнты і часткі асноўнага доўгу. І, мяркуючы па тым, што ніякіх пазітыўных зменаў у эканоміцы не праглядаецца, я думаю, што рубель працягне сваё падзенне. Ён будзе падаць прыкладна такім жа чынам: падзенне — потым карэкціроўка, некаторы час трымацца, потым зноў падае, зноў карэкціроўка...

Зразумела, пра тыя кантрольныя лічбы, якія вызначыў Мінфін, казаць не даводзіцца. Я думаю, рубель страціць да канца года яшчэ капеек дваццаць як мінімум.

***— Чаго нам чакаць, у далейшым? Краіну трасе, сітуацыя, падаецца, непрадказальная...***

— Сённяшняя сітуацыя якраз лепш за ўсё паддаецца прагнозу! У нас ёсць толькі негатыўныя сігналы эканомікі, ніякіх пазітыўных сігналаў няма, і яны нават не праглядаюцца. Негатыўныя сігналы — гэта, па-першае, сусветная стагнацыя, выкліканая пандэміяй каронавіруса. Па-другое, падзенне коштаў на сыравінныя рэсурсы: не толькі на нафту і нафтапрадукты, але і на калійныя ўгнаенні, азотныя ўгнаенні, якія мы вырабляем, скарачэнне попыту на інвестыцыйныя тавары — трактары, вялікагрузныя і грузавыя аўтамабілі. Па-трэцяе, нестабільная палітычная сітуацыя.

Калі нават не зважаць на нюансы, да краіны, якая ўзбураная знутры, вельмі насцярожана ставяцца любыя інвестары. І не толькі стратэгічныя інвестары, але і так званыя «партфельныя» — напрыклад, заходнія банкі, якія досыць лёгка крэдытавалі беларускія банкі, таму што ў нас да гэтага часу не было дэфолтаў. Але, калі ў краіне адбываюцца такія пертурбацыі, то, натуральна, магчымасці для пазыкаў на рынках памяншаюцца. Інвестары сюды не прыйдуць. А без інвестыцый эканоміка падае.

Пытанне толькі, якімі тэмпамі яна будзе падаць. Вось гэта — тэмпы падзення, — ужо спрагназаваць складана, бо наша ўлада мае звычку ў самы непадыходзячы момант, як кажуць, «страляць сабе ў нагу» — прымаць рашэнні, якія ніяк лагічна не вытлумачальныя. І часам такія рашэнні досыць моцна ўплываюць на эканоміку ў негатыўны бок.

Такім чынам: падзенне будзе, падзенне будзе дастаткова значным, хаця канкрэтны яго памер прадказаць досыць складана. І гэта не будзе падзенне разавае — яно будзе паступовым. У верасні паказчыкі дзевяці месяцаў 2020 года будуць горшыя за дзевяць месяцаў 2019-га, у кастрычніку — яшчэ горшыя, у лістападзе — яшчэ горшыя, і так далей.

# Кошт палітычнай нестабільнасці

**S&P Global Ratings перагледзела прагноз па доўгатэрміновых суверэнных рэйтынгах Беларусі па абавязацельствах у замежнай і нацыянальнай валюце са «стабільнага» на «негатыўны». Пра гэта паведамляецца ў прэс-рэлізе кампаніі.**



Прагноз «негатыўны» адлюстроўвае рызыкі для фінансавай стабільнасці банкаўскай сістэмы Беларусі (большая частка якой знаходзіцца пад кантролем дзяржавы), пра што сведчыць канвертацыя рэзідэнтамі зберажэнняў у замежную валюту і частковае выняцце дэпазітаў, тэмпы якога павысіліся на працягу жніўня. У выпадку рэалізацыі негатыўнага сцэнару, гэта можа прывесці да змяншэння валютных рэзерваў Нацбанка і стварыць для ўрада рызыкі рэалізацыі ўмоўных абавязацельстваў. З пачатку жніўня сукупныя рэзервы краіны скараціліся на 1,4 мільярда долараў, да ўзроўню, пры якім яны эквівалентныя 2,6 месяца імпарту.

У цэлым S&P лічыць, што перыяд падвышанай нявызначанасці пасля выбараў можа зацягнуцца. Гэта, у сваю чаргу, можа негатыўна паўплываць на эканамічны рост Беларусі і яе доступ да міжнародных рынкаў капіталу ў бліжэйшыя 12–18 месяцаў, што акажа ціск на суверэнны рэйтынг.

Агенцтва можа перагледзець прагноз па суверэнных рэйтынгах зноў на «стабільны» ў выпадку зніжэння палітычнай нявызначанасці, што спрыяла б умацаванню эканамічных і бюджэтных паказчыкаў Беларусі, а таксама павышэнню стабільнасці фінансавага сектара краіны.

S&P адзначае, што пасля выбараў 9 жніўня па ўсёй краіне прайшлі масавыя пратэставыя акцыі: у Мінску налічвалася некалькі сотняў тысяч пратэстоўцаў, што значна для краіны з колькасцю насельніцтва 9,5 мільёна чалавек. Удзельнікі пратэстаў перыядычна сутыкаліся з жорсткай зваротнай рэакцыяй сілавых структур, што асуджалася з боку сусветнай супольнасці. Краіны ЕС анансавалі ўвядзенне санкцый у дачыненні да шэрагу асоб, якіх яны лічаць адказнымі за парушэнні падчас выбараў і наступнае прымяненне гвалту ў дачыненні да пратэстоўцаў.

Агенцтва мяркуе, што выхад з сітуацыі можа быць асабліва абцяжараны з прычыны адсутнасці ў Беларусі незалежных інстытутаў, якія маглі б стаць вартымі даверу незалежным арбітрам і дапамагчы эфектыўна развязаць супярэчнасці. S&P ацэньвае інстытуцыйныя механізмы Беларусі як слабыя.

# «У 5.40 я прачнуўся і ўбачыў над сабой

Алена БЫЧКОВА, TUT.BY

**«Кожны дзень уяўляю, як маму адпусцяць. Думаю, гэта здарыцца раптоўна, нечакана, гэта будзе свята», — і Георгій упершыню нам усміхаецца. Яму 12 гадоў, але ён ужо ведае, чым агляд адрозніваецца адператрусу, а «адміністрацыйка» — ад «крыміналкі», ведае, што такое СІЗА і дзе ў Гомелі знаходзіцца ІЧУ, распавядае TUT.BY.**




**Мікалай Вадзімавіч, Аляксандр, Георгій, Дзмітрый. Аляксея ў момант нашага прыезду ў бацькавым доме не было. Фота Сяргея Камкова**

Георгій ведае шмат таго, чым 12-гадоваму дзіцяці наогул не варта было б пакуль забіваць галаву. Ягоную маму, гамяльчанку Таццяну Канеўскую, якая была даверанай асобай Святланы Ціханоўскай і збірала за яе подпісы, цяпер абвінавачваюць ва ўдзеле ў масавых беспарадках. Яна — адна з тых беларусаў, якіх прызналі ў гэтую кампанію палітвязнямі, адна з пяці на гэты момант жанчын у гэтым спісе (яшчэ там Марыя Калеснікава, Лілія Уласава, Святлана Купрэева, Юлія Шардыка; нядаўна на волю выйшла Алена Карагачава, якая таксама была ў спісе). Таццяна ўжо месяц за кратамі, і што будзе далей — ніхто ў яе сям'і не ведае.

Таццяну Канеўскую міліцыя затрымала ў Гомелі 8 жніўня. Яе абвінавацілі ў адміністрацыйных правапарушэннях: дробным хуліганстве і непадпарадкаванні міліцыі. 10 жніўня суд Савецкага раёна Гомеля разглядаў адміністрацыйны пратакол — суддзя адправіла яго на дапрацоўку. Канеўскую, паколькі ў яе ёсць непаўналетнія дзіця, выпусцілі з залы суда. Але як толькі яна вырашыла забраць з канвойнай машыны рэчы, тут жа была зноў затрымана.

Яе перавезлі ў Мінск, у СІЗА на Валадарскага, цяпер жанчына праходзіць па справе аб масавых беспарадках (арт. 293 КК РБ). Паводле інфармацыі сям'і, атрыманай ад першага адваката Таццяны, гаворка ідзе пра ч. 2 арт. 293 КК — гэта ўдзел, і ён караецца тэрмінам ад 3 да 8 гадоў. Другі адвакат жанчыны з-за падпіскі аб неразгалошванні не кажа сям'і нават пра тое, у чым абвінавачваецца Канеўская. Аператыўна ўдакладніць, што ставяць у віну жанчыне, TUT.BY не змог і ў СК.

TUT.BY гаварыў з Таццянай Канеўскай за два месяцы да выбараў. Яна была актывісткай «Матчынага руху 328»: калісьці сама стала мамай асуджанага па вядомым 328-м артыкуле за наркотыкі сына Аляксандра (у 2016-м яму далі 8 гадоў, але з-за змены заканадаўства яго тэрмін паменшыўся — хлопец выйшаў у 2019-м), потым падтрымлівала такіх жа няшчасных маці. У 2020 годзе актыўна ўключылася ў выбарчую кампанію.



«Я думаю, што гэты год — апошні ў Аляксандра Рыгоравіча. Я бачыла "марш недармаедаў", я бачыла Плошчу 2010 года... але цяпер усё інакш. Зараз з канапы ўсталі нават тыя, хто ніколі не цікавіўся палітыкай... на самай справе, усім страшна. Простаму чалавеку, які сутыкаецца з сістэмай упершыню, не можа быць не страшна. Але вера і падтрымка людзей дае сілы і надзеі на тое, што нешта зменіцца — і страх адступае».

У Таццяны чацвёра сыноў — Георгій, Дзмітрый, Аляксей, Аляксандр — і муж Мікалай Вадзімавіч, з ім яна разам амаль 40 гадоў.

У мужчын для мамы і жонкі дзве добрыя навіны. Па-першае, нарадзіліся шчанюкі іх дварняка Чыка, па-другое, яны навучыліся гатаваць смачныя баршчы. Не такія, вядома, як у яе, але ўсё ж. Ёсць і дрэнная: Дзмітрыя звольнілі з мэблевай фабрыкі пасля таго, як кіраўніцтву трапілася на вочы фота, дзе ён быў валанцёрам на пікеце.

Пра ўсё гэта Таццяна не ведае: нягледзячы на тое, што

# Чэрапна-мазгавыя, траўмы жывата, пахвінных абласцей, пераломы.

## З якімі траўмамі паступалі пацярпелыя ў жніўні

**У распараджэнні TUT.BY некалькі дзён таму аказаўся дакумент, атрыманы ад крыніц у ахове здароўя, пад назвай «звароты вуліца_з 09.08.2020».**

**Атрыманы дакумент уяўляе сабой спісы тых, хто з 9 па 23 жніўня «пры правядзенні вулічных мерапрыемстваў» звяртаўся па медыцынскую дапамогу або атрымліваў яе ў розных медустановах Мінска**

У дакуменце пазначаны даныя больш за 1100 чалавек, якія звярталіся па медыцынскую дапамогу, а таксама апісанне атрыманых імі траўмаў. TUT.BY змог праверыць гэтую інфармацыю ў пяці клініках Мінска — іх даныя практычна цалкам супадаюць з тымі, што пазначаныя ў дакуменце. У некаторых клініках журналісты інфармацыю пацвердзіць або абвергнуць не змаглі, таму дыягназы адтуль не выкарыстоўваюцца. І хочам яшчэ раз звярнуць увагу на тое, што гэты дакумент атрыманы з неафіцыйных крыніц.

Атрыманы дакумент уяўляе сабой спісы тых, хто з 9 па 23 жніўня «пры правядзенні вулічных мерапрыемстваў» звяртаўся па медыцынскую дапамогу або атрымліваў яе ў розных медустановах Мінска.

У ім пазначаны месца і час звароту, дыягназ хуткай медыцынскай дапамогі, месца, куды быў накіраваны пацярпелы для аказання дапамогі, і дыягназ стацыянару.

Згодна з дакументам, у Мінску медыцынская дапамога спатрэбілася прыкладна 1140 асобам.

Насупраць аднаго «невядомага» пазначана «смерць да прыезду». Верагодна, гэта быў Аляксандр Тарайкоўскі: названыя час і месца звароту супадаюць з абставінамі яго гібелі.

### Як правяралі сапраўднасць дакумента

Спачатку журналісты TUT.BY выявілі ў спісах прозвішчы тых, каго ведалі асабіста, пра каго пісалі раней і хто падаваў ім свае медыцынскія дакументы. Гэтыя даныя супалі цалкам.

Пасля TUT.BY зверыла атрыманы дакумент у пяці клініках.

У 11-й бальніцы журналістам адказалі, што спіс супадае цалкам, за выключэннем двух чалавек.

Сапраўднасць даных пацвердзілі і ў 6-й гарадской клінічнай бальніцы, у 4-й ГКБ — таксама, адзначыўшы, што ёсць нязначныя разыходжанні ў дыягназах, а таксама тое, што ў спісе не хапае аднаго чалавека, які атрымаў цяжкія траўмы ў першыя дні жнівеньскіх пратэстаў.

У БХМД таксама пацвердзілі сапраўднасць звестак. Пры гэтым высветлілася, што ў спісах ёсць памылкі ў напісанні прозвішчаў, у некаторых канчатковы дыягназ адрозніваецца «ў бок большай цяжкасці». Акрамя гэтага, у спісе ёсць некалькі чалавек, якія ўказвалі, быццам яны пацярпелі на пратэстах, але па факце проста былі ў стане алкагольнага ап'янення. Астатнія даныя ідэнтычныя.

Таксама TUT.BY параўнала даныя па траўмах, з якімі пацярпелыя паступалі ў ваенны шпіталь. Гэтая інфармацыя таксама аказалася ідэнтычнай.

Згодна з дакументам, медыцынскую дапамогу пацярпелым тады таксама аказвалі ў 1-й, 2-й, 3-й, 5-й, 10-й бальніцах Мінска, у РНПЦ траўматалогіі і артапедыі, у Мінскай абласной клінічнай бальніцы, Мінскім навукова-практычным цэнтры хірургіі, трансплантaлогіі і гематалогіі — ёсць колькасць пацыентаў, якія паступілі, і інфармацыя аб атрыманых імі траўмах, аднак стопрацэнтна верыфікаваць гэтыя даныя нам не ўдалося. Таму TUT.BY стараўся не ўлічваць іх, калі не было іншых крыніц, якія паказваюць на сапраўднасць (напрыклад, гісторый герояў публікацый, даныя па якіх супадалі з дакументам).

### Траўмы тых, хто звяртаўся па дапамогу ў ноч з 9 на 10 жніўня

Як указана ў дакуменце, пацярпелых у перыяд з 9 на 10 жніўня ў сталіцы было не менш за сто чалавек (ва ўсіх клініках Мінска, з улікам тых, дзе журналісты не змаглі пацвердзіць усе звесткі). Увесь вечар і ноч іх забірала хуткая і адвозіла ў розныя бальніцы. Пацыентаў з найбольш цяжкімі траўмамі везлі ў Галоўны ваенны шпіталь.

У ваенны шпіталь у тую ноч паступілі некалькі дзясяткаў чалавек з асколкавымі раненнямі твару, грудзей, жывата і канечнасцяў, ірванымі ранамі, агнястрэльнымі раненнямі, апёкамі верхніх канечнасцяў і жывата.

Вось так гучаць дыягназы некаторых пацярпелых:

- агнястрэльнае пранікальнае раненне жывата, эвентрацыя тонкага кішэчніка;
- адкрытая траўма грудной клеткі, траўматычны шок;
- мінна-выбуховая траўма сцягна, ЧМТ сярэдняй ступені цяжкасці, удары мяккіх тканак галавы;
- асколачнае раненне шыі, правага перадплечча;
- пранікальнае асколачнае раненне пярэдняй паверхні шыі;
- хімічны апёк рагавіцы кан'юнктывы абодвух вачэй;
- множныя агнястрэльныя раны тулава, правай ніжняй канечнасці;
- рваная рана абедзвюх ступняў, рана твару.

Таксама ў тую ноч, згодна з гэтым неафіцыйным дакументам, у трох чалавек быў зафіксаваны пералом аснавання чэрапа. У аднаго з іх быў асколачны пералом костак зводу і аснавання чэрапа, тваравага шкілета, пнеўмацэфалія (паветра ўнутры чэрапа), гемарагічны ўдар галаўнога мозгу, гематома правай лобнай вобласці. Іх, па нашых даных, што не ўдалося верыфікаваць, прывозілі ў 5-ю бальніцу.

У яшчэ аднаго чалавека зафіксавалі адкрытую чэрапна-мазгавую траўму сярэдняй ступені цяжкасці, вострую абалонкавую гематому, пералом зводу і аснавання чэрапа, пнеўмацэфалію, закрыты пералом 2–7 рэбраў справа, а таксама стан алкагольнага ап'янення пад пытаннем. Ён трапіў у 4-ы шпіталь.

### З якімі траўмамі прывозілі пацыентаў, якіх хуткая забірала з Акрэсціна

У некаторых пацярпелых месцам звароту пазначаны 1-ы завулак Акрэсціна, 36 — па гэтым адрасе знаходзіцца Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў ГУУС Мінгарвыканкама. Адтуль, згодна з дакументам, шпіталізавалі каля 50 чалавек, выклікі па гэтым адрасе паступалі ў хуткую з самай раніцы 10-га

# амапаўца. Зноў шукалі маму»

хлопцы пішуць ёй рэгулярна, лісты на Валадарку, наколькі яны ведаюць, ёй пакуль не даходзяць. Ад мамы ж хлопцам прыйшоў адзін ліст — «пабытавы, аб сямейных справах», кажуць яны.

Што з яе крымінальнай справай, родным таксама невядома. Адвакат Таццяны даў падпіску аб неразгалошванні, лісты не прыходзяць, спатканняў няма — так што Канеўскія сядзяць і чакаюць хоць нейкіх вестак ад мамы. Але іх няма.

Дом Канеўскіх — у пяці хвілінах хады ад Савецкага райаддзела міліцыі. Адтуль 6 жніўня да іх упершыню прыйшлі. Спачатку два маёры — пацікавіліся ў сына Аляксандра, дзе мама. А праз 10 хвілін прыбег АМАП: «У вас адбываецца злачынства».

— Адсунулі ўбок і ўвайшлі ў дом. Зазірнулі ў кожную шафу, пад кожную канапу. Разбегліся па ўсіх пакоях, спусціліся ў склеп, падняліся на гарышча. Затым з'явіліся людзі ў цывільным — яны таксама агледзелі дом. Пытаюся: «Што вы шукаеце? Зброю? Наркотыкі?» Адказваюць: «Шукаем труп», — узгадвае падзеі таго вечара Аляксандр.

Дзе яго мама, ён і сам тады не ведаў, але здагадаўся, што з дому яна сышла не выпадкова. Міліцыянты сышлі позна ўвечары, але працягвалі шукаць Таццяну.

— У 5.40 я прачнуўся і ўбачыў над сабой амапаўца. Зноў шукалі маму, — працягвае Аляксандр.

У гэты ж час, як потым высветлілася, АМАП працаваў і ў доме брата Аляксандра — Аляксея, які жыве з сям'ёй асобна, а таксама ў сяброў сям'і Канеўскіх і ў іх сына. А сябар Аляксандра, які заехаў на наступны дзень да яго ў госці, і зусім аказаўся ў ІЧУ.

— Ён заязджаў машыну паправіць, а калі вяртаўся ад мяне, яго спынілі і адвезлі спачатку ў міліцыю, а потым у ІЧУ. Пратрымалі тры дні. У чым ён вінаваты? Ён наогул за Лукашэнку, — да гэтага часу не можа зразумець Аляксандр.

8 жніўня Таццяна выйшла на сувязь — папрасіла Аляксандра прынесці ежы туды, дзе яна хавалася ад затрымання. Але не схавалася: у двары, дзе яна сустракалася з сынам, апынулася засада.

— Да мамы падышоў мужчына ў масцы і кепцы: «Таццяна Васільеўна, пройдзем». Не прад'явіў пасведчанне, прычыны затрымання не паведаміў. Больш я маму не бачыў.

Толькі праз два дні Канеўскія высветлілі, што Таццяна ў ІЧУ, два браты паехалі перадаць перадачу — але там схапілі і іх.

«Аляксей Мікалаевіч? Аляксандр Мікалаевіч? На плошчы былі?» — Кажам: «Не». — «Вы затрыманыя». У выніку на нас склалі пратакол, што мы спраўлялі патрэбу каля ІЧУ», — сумна ўсміхаецца Аляксандр.

На пытанне, навошта міліцыі спатрэбілася іх затрымліваць, а суду — даваць 15 сутак, у братоў адказу няма дагэтуль. Арышт адбывалі якраз у дні пасля выбараў.

— У ІЧУ — па 50 чалавек у камеры, стаіш, як у бітком набітым тралейбусе. Падлога была мокрай, па сценах бегла вада ад вільгаці: людзей шмат, а акенца маленькае і закрытае... пасля суда на наступны дзень адвезлі ў СІЗА. Нас быў цэлы аўтобус — так усім аўтобусам і запіхнулі ў камеру тры на пяць метраў.

А ўвесь гэты час Мікалай Вадзімавіч кідаўся паміж РАУС, СІЗА і ІЧУ — ужо палова яго сям'і знаходзілася за кратамі, усім магла быць патрэбная дапамога. На шчасце, сыноў праз трое сутак выпусцілі. А ад адваката ўдалося даведацца, што Таццяну перавялі ў мінскае СІЗА і цяпер падазраюць ва ўдзеле ў масавых беспарадках.

— Якія масавыя беспарадкі? Яна заўсёды казала: «Толькі б не пачалося што нядобрае», — здзіўляецца муж затрыманай.

Канеўскія кажуць, што не маглі і падумаць, што ўсё можа так павярнуцца. Так, яны збіралі подпісы ў падтрымку альтэрнатыўных кандыдатаў, былі незалежнымі назіральнікамі на ўчастках, Таццяна арганізоўвала мітынг штаба Ціханоўскай у Гомелі — але ж усё гэта ў рамках выбарчай кампаніі было законна, і ніякіх прэтэнзій з боку праваахоўнікаў быць проста не можа.

— Мама, вядома, лічыла, што бліжэй да выбараў усіх актыўных паспрабуюць нейтралізаваць. Яна прыходзіла ўвечары і гаварыла, што хутка пачнецца «хапун». І мы гатовыя былі да адміністрацыйных справаў, да таго, што давядзецца адседзець суткі, але каб «крыміналка»! За што? Якія беспарадкі? Ніводнай разбітай вітрыны, што там вітрыны — смецця пасля сябе мітынгоўцы ў Гомелі не пакідалі. Пра якія масавыя беспарадкі ідзе гаворка? — не разумее Аляксандр.

**Дом Канеўскіх — у пяці хвілінах ад Савецкага райаддзела міліцыі. Адтуль 6 жніўня да іх упершыню прыйшлі. Спачатку два маёры — пацікавіліся ў сына Аляксандра, дзе мама. А праз 10 хвілін АМАП: «У вас адбываецца злачынства»**

**Пераклад НЧ**




**Аляксей, пацярпелы ў ноч на 13 жніўня. Быў шпіталізаваны ў БХМД Мінска. Фота: Вадзім Заміроўскі, TUT.BY**

па 15 жніўня (15-га з Акрэсціна прывезлі аднаго чалавека). Пасля абследавання ў стацыянары пацыентам ставілі розныя дыягназы, у асноўным — множныя ўдары мяккіх тканак: грудной клеткі, гематомы сцёгнаў і ягадзічнай вобласці, выцятыя раны цемяннай і скроневай вобласці, радзей — пераломы рэбраў, рук і пальцаў, закрытыя ЧМТ.

Некаторыя з затрыманых паступалі ў бальніцу з сутаргавым прыступам, станам пасля эпілептычнага прыступу, траўмамі вачэй, гіпертанічным крызам, закрытым пераломам правага надкаленніка са зрушэннем адломкаў.

У дваіх затрыманых і пазней шпіталізаваных з ЦІП быў выяўлены алкаголь у крыві. У аднаго чалавека — 0,7 праміле, у іншага — 3,3 праміле. Яшчэ ў траіх стан алкагольнага ап'янення стаіць пад знакам пытання.

Калі ўважліва вывучыць дакумент, то можна заўважыць, што ў некаторых выпадках (прыкладна пяці) месцам звароту пазначаны розныя РУУС Мінска.

Напрыклад, 10 жніўня, пазначана ў дакуменце, з Ленінскага РУУС шпіталізавалі двух чалавек: аднаго — з рэзанымі ранамі абедзвюх сцёгнаў, іншага — у стане пасля электратраўмы. Пасля наведвання бальніцы яны накіраваліся дадому.

Увечары 12 жніўня з Першамайскага РУУС чалавека шпіталізавалі з закрытай ЧМТ, страсеннем галаўнога мозгу, ударам мяккіх тканак галавы і паяснічнай вобласці, шматлікімі гематомамі ніжніх канечнасцяў.

Раніцай 13 жніўня з Ленінскага РУУС забралі чалавека з закрытай ЧМТ, страсеннем галаўнога мозгу, ударам мяккіх тканак цемянной вобласці справа, пераломам носа.

У ноч на 13-га жніўня з Партызанскага РУУС шпіталізавалі чалавека пасля прыступу эпілепсіі, з закрытай ЧМТ, пераломам верхняй сценкі верхнясківічнай пазухі.

### Пасля таго, як сталі адпускаць з Акрэсціна

Згодна з дакументам, вялікі наплыў зваротаў быў зафіксаваны 14 і 15 жніўня ў 6-й гарадской клінічнай бальніцы — гэта пасля таго, як у ноч з 13-га на 14 жніўня з ЦІП на Акрэсціна сталі адпускаць затрыманых.

Як пазначана ў спісах, пацярпелыя туды звярталіся самастойна, а атрымлівалі лячэнне амбулаторна. З дакумента вынікае, што за два дні ў клініку звярнуліся каля 60 чалавек.

Часцей за ўсё лекары бальніцы фіксавалі ў пацыентаў удары грудной клеткі, гематомы сцёгнаў і ягадзічнай вобласці, ранкі скроневай вобласці, лучазапясцевых і каленных суставаў, гематомы вакол вачэй, удары суставаў, закрытыя чэрапна-мазгавыя траўмы, пераломы.

Пацыенты 11-й бальніцы: пераломы верхняй і ніжняй сківіцы, скулавой косткі.

Згодна з дакументам, з 11-га па 21-га жніўня не менш за дзесяць чалавек звярнуліся ў 11-ю гарадскую клінічную бальніцу або былі шпіталізаваны ў аддзяленне сківічна-тваравай хірургіі, а таксама ў ЛОР-аддзяленне.

Вось некаторыя дыягназы, якія былі пастаўленыя:

- пералом верхняй сківіцы і выцятая рана твару;
- адкрыты траўматычны пералом скулавой косткі;
- закрыты траўматычны пералом скулавой дугі справа са зрушэннем адломкаў, траўматычная нейрапатыя тройчага нерва справа, параарбітальная гематома правага вока;
- адкрыты траўматычны пералом у вобласці ніжняй сківіцы ў франтальным аддзеле без зрушэння абломкаў;
- адкрыты траўматычны пералом скула-арбітальнага комплексу справа са зрушэннем касцяных абломкаў;
- выцята-рваная рана левага брыва, гематома верхняга і ніжняга паўвека левага вока, гематома надброўнай вобласці злева;
- траўматычная перфарацыя барабаннай перапонкі справа, ранкі правага каленнага сустава, рэзаная рана правай падкаленнай вобласці.

### Што яшчэ?

У аднаго з пацярпелых зафіксавалі скальпаваную рану правага сцягна, ранку і ўдар мяккіх тканак палавога члена, множныя ранкі ніжніх канечнасцяў і пахвінных абласцей.

У аднаго з пацыентаў БХМД пад пытаннем стаіць «пашкоджанне слізістай абалонкі прамой кішкі».

У 29 чалавек быў знойдзены ў крыві этанол. Яшчэ ў 31 чалавека лекары хуткай дапамогі або бальніцы адзначылі прыкметы алкагольнага ап'янення. Нагадаем, усяго ў спісе тых, хто звярнуўся па медпамогу, пералічана 1140 чалавек.

У спісах, якія аказаліся ў распараджэнні TUT.BY, пазначаны адзін пацярпелы супрацоўнік МУС — папярэдне, у яго быў вывіх на ўзроўні запясця, кісці. Яму аказвалі дапамогу ў шпіталі МУС. Нагадаем, 31 жніўня кіраўнік МУС Юрый Караеў паведаміў, што ведамству вядома пра 131 пацярпелага падчас жнівеньскіх пратэстаў супрацоўніка, з іх на той момант у шпіталі МУС заставаліся 28.

9 верасня TUT.BY звярнуўся па каментар у прэс-службу Міністэрства аховы здароўя, аднак на момант публікацыі 11 верасня атрымаць яго не ўдалося.

11 жніўня, нагадаем, Міністэрства аховы здароўя паведамляла пра тое, што падчас акцый пратэсту 9 і 10 жніўня пацярпелі крыху больш за 200 чалавек. У стацыянарах знаходзіліся людзі з ударамі мяккіх тканак, траўмамі канечнасцяў.

Некалькі чалавек былі шпіталізаваныя з чэрапна-мазгавымі траўмамі, а таксама з траўмамі грудной клеткі і жывата. У асноўным траўмы лёгкай ступені цяжкасці. Некалькім пацыентам спатрэбілася правядзенне аперацый. Стан іх стабілізаваны. На жаль, адзін чалавек загінуў. Смерць наступіла да агляду лекарамі хуткай медыцынскай дапамогі.

14 жніўня тэлеграм-канал ведамства пісаў, што асноўнай часткі грамадзян, якія атрымалі траўмы на акцыях, была аказана медыцынская дапамога ў амбулаторных умовах.

У бальніцах Беларусі знаходзяцца на шпіталізацыі 150 чалавек — такія былі даныя Міністэрства.

**Пераклад НЧ**

18 верасня 2020 | № 35 (694) Новы Час

**Што далей? Першыя крокі новай кіруючай кааліцыі пакуль выглядаюць як пакет прапаноў пра выхад са стану напружанасці. Выбаршчыкам дэмпартый сацыялістаў прапануецца ідэя «нацыянальнага прымірэння»**



Фота www.kliker.info

# Заняпад караля Міла Адзінага

Алег НОВІКАЎ

**Пасля трох дзясяткаў гадоў праўлення Чарнагорыяй, яе predsjednik (так тут называюць прэзідэнта) Міла Джуканавіч у выніку праведзеных 30 жніўня 2020 года выбараў страціў кантроль над парламентам краіны. Спецыяльна для «Новага Часу» пра значнасць падзеі піша чарнагорскі журналіст Міёдраг Драгамілавіч.**

Палітычныя эксперты звыкла спрачаюцца наконт дэталяў, але сыходзяцца ў сутнасці ацэнак апошніх дзён: падобна, што «апошні кароль Црна Горы» пацярпеў гістарычную палітычную паразу. Хаця яшчэ паўтара месяца таму аўтарытэтны лонданскі штотыднёвік «The Economist» вельмі ёміста і красамоўна назваў яго «Кароль Міла Адзіны».

Сапраўды, гэты палітык неаднаразова даводзіў сваё тонкае майстэрства паспяхова плаваць у часта фатальных водах балканскай палітыкі. У працяглым серыяле «Джуканавіч пры ўладзе» было мноства сезонаў — і пра югаслаўскія войны, і пра сяброўства з Мілошавічам, і пра незалежнасць 2006-га, і пра «еўраатлантычную фазу». У гэтай, апошняй, у лідараў Захаду ў адносінах да Міла, падобна, масава выявілася нейкая «добразычлівая амнезія» да яго ранейшых грахоў. Напрыклад, італьянская юстыцыя доўгі час абвінавачвала Джуканавіча ў кіраванні каласальным трафікам кантрабандных цыгарэт.

Міла ўмела прытрымліваўся менавіта такой выйгрышнай стратэгіі знешнепалітычнага пазіцыянавання, балазе, яна падсілкоўвалася складанымі перыпетыямі супрацьстаяння з тымі часткамі апазіцыі, якія геастратэгічна былі не супраць флірту з Расіяй або ставілі на падтрымку з боку Сербіі.

Найбольш драматычны — і пры гэтым найбольш тэатральны — момант гэта стратэгія перажыла падчас парламенцкіх выбараў 2016 года. Чарнагорскія спецслужбы правялі серыю арыштаў, у выніку якіх было абвешчана пра выкрыццё дзяржаўнага перавароту дзеля фізічнай ліквідацыі Джуканавіча і «прадухілення ўступлення краіны ў NATO».

Аднак ні адносна прасунутая стадыя інтэграцыя з ЕС (у 2010 годзе Чарнагорыя стала кандыдатам у Еўрасаюз), ні ўступленне ў NATO ў 2017 годзе не здымалі эканамічных праблем, унутрыпалітычнай напружанасці і пратэставай актыўнасці ў краіне. У значнай ступені менавіта масавая незадаволенасць выклікала рэкордную яўку на выбарах 30 жніўня — прагаласавалі 76,65% выбаршчыкаў.

Вынікі выбараў у Міла вельмі кепскія. Упершыню з 1991 года Джуканавіч і яго ўмоўна левацэнтрысцкая Дэмакратычная партыя сацыялістаў (ДПС) ужо не кантралююць мясцовы парламент. Пасля падліку галасоў на парламенцкіх выбарах 30 жніўня ў краіне сапраўды паўстаў новы палітычны ландшафт: ДПС, хоць і захавала за сабой адносную большасць (30,5% галасоў — гэта ў выніку прынесла 30 крэслаў парламентарыяў з 81), ужо не здольная, нават пры падтрымцы традыцыйных саюзнікаў, стварыць уласную ўрадавую кааліцыю і вымушана ісці ў апазіцыю.

Зрынула «караля» з яго парламенцкіх пазіцый вельмі стракатая кампанія, якую аб'ядноўвала дагэтуль, мабыць, толькі агульнае жаданне «скончыць з рэжымам найстарэйшага дыктатара Еўропы» (так на Балканах называюць Міла). Тут і арыентаваны на Сербію кансерватыўны правапапулісцкі альянс «За будучыню Чарнагорыі» (32,55% і 27 парламенцкіх месцаў), і праеўрапейская цэнтрысцкая, з украпінамі правацэнтрыстаў і «новых левых» левацэнтрыстаў, кааліцыя «Свет — наша нацыя» (12,54% і 10 месцаў), і экалагі-левацэнтрысты з «Ujedinjena reformska akcija» (5,53% і 4 месцы). У выніку ў актыве ў «тройкі» (а дакладней, доўгага спісу чальцоў яе кааліцыі) — 41 парламентарый з 81.

Уласна, прычыны краху Джуканавіча хаваюцца ў глыбокіх супярэчнасцях, якія суправаджалі ўсю доўгую эпічную эпоху яго панавання. Гэтыя трыццаць гадоў адзначаныя ў гісторыі Чарнагорыі (зрэшты, як і ў гісторыі ўсіх Заходніх Балканаў) мноствам драматычных падзей. З вельмі маладога і заўзятага прыспешніка Мілошавіча падчас канфліктаў, якія суправаджалі крывавы распад Югаславіі, тагачасны «рэвалюцыянер-антыбюракрат» Міла з гадамі трансфармаваўся ў праеўрапейскага лідара. Але гэта не замінала яму пабудаваць рэжым з развітай глыбокай карупцыяй, сур'ёзнымі абмежаваннямі свабоды друку і татальным падпарадкаваннем. Калі ўвогуле не сказаць — прыгнётам усіх дзяржаўных і грамадскіх інстытутаў на карысць асабістым інтарэсам Джуканавіча і яго блізкага партыйнага кола. Позна ці рана такая мадэль павінна была альбо рэфармавацца, альбо згінуць.

Што далей? Першыя крокі новай кіруючай кааліцыі пакуль выглядаюць як пакет прапаноў пра выхад са стану напружанасці. Выбаршчыкам дэмпартый сацыялістаў прапануецца ідэя «нацыянальнага прымірэння» аж да прапановы ўваходу іх палітструктуры ва ўрад. Гаворка ідзе пра «новы, тэхнічны ўрад з асноўнай мэтай вывесці краіну з эканамічнага крызісу», а таксама пра «працягванне рукі этнічным меншасцям» ды «перагляд дыскрымінацыйных заходаў», і гэтак далей.

Вядома, сігналы ў абавязковым парадку дасылаюцца і на знешнепалітычным узроўні — з фармальным пацвярджэннем прыхільнасці дамоўленасцям працягваць ісці па шляху інтэграцыі ў Еўрасаюз.

Аднак казаць пра фінал для Джуканавіча таксама пакуль не варта. Гросмайстар чарнагорскай палітыкі захаваў за сабой пасаду прэзідэнта і застаецца далей у гульні. Яго мандат заканчваецца ў 2023 годзе. Джуканавічу можа дапамагчы рэльефнае выяўленне глыбокіх канфліктаў паміж складнікамі новага ўрада. Асабліва калі ў бліжэйшыя месяцы ў краіне паглыбіцца эканамічны крызіс, цесна звязаны з сітуацыяй вакол COVID-19.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

«Еўрасаюз павінен як мага гучней казаць пра Беларусь і рабіць гэта аднагалосна. Недастаткова проста папярэджання пра тое, каб Пуцін не дасылаў сваіх жаўнераў. Расійская інтэрвенцыя была малаверагоднай з самага пачатку. Замест гэтага спадар Пуцін хоча, каб больш слабы беларускі кіраўнік пагадзіўся на глыбокую інтэграцыю з Расіяй і надаў спадару Пуціну кантроль над абароннай сваёй краіны, над знешняй бяспекай і над ключавымі актывамі. У адказ спадар Лукашэнка можа калі-небудзь атрымаць пасаду ў Маскве».

**The Economist (Вялікабрытанія)**

«Маштабы пратэстаў у Беларусі заспелі расійскае кіраўніцтва знянацку, пра што кажуць блізкія да Крамля крыніцы. Масква не давярае Лукашэнку, які знаходзіцца на прэзідэнцкай пасадзе 26 гадоў, аднак не можа дапусціць прыходу да ўлады нацыянальнай апазіцыі, якая працягвае свае вулічныя пратэсты. Крэмль будзе падтрымліваць беларускага кіраўніка, у той жа час садзейнічаць захадам па паступовай перадачы ўлады».

**Bloomberg (ЗША)**

«Лукашэнка, падаецца, лічыць, што калі 10 гадоў таму пасля разгрому выступленняў апазіцыі, якая выйшла 19 снежня 2010 на вуліцы ў знак пратэсту супраць фальсіфікацый на выбарах, ён цалкам адмовіўся ад заходняга вектару, а потым здолеў яго аднавіць, то зможа правесці такі манеўр і гэтым разам. А Захад рана ці позна змірыцца з яго знаходжаннем ва ўладзе. Такія разлікі няслушныя па некальких прычынах. Па-першае, эканамічная сітуацыя ў Беларусі стала больш складанай, чым у 2010 годзе, і Расія напэўна гэтым скарыстаецца. Па-другое, Уладзіміру Пуціну цяпер значна больш патрэбны поспех на знешнепалітычнай арэне, які дазволіць затушаваць няўдачы ва ўнутранай палітыцы».

**Onet.pl (Польшча)**

«Жывучасці польскіх ініцыятываў у дачыненні да Беларусі спрыяе палітычны кансенсус, які вызначае з 1991 года [і распаду СССР] усходнюю палітыку Польшчы. Асноўны змест гэтай усходняй палітыкі па-ранейшаму грунтуецца на «дактрыне УЛБ» (Украіна, Літва, Беларусь), распрацаванай яшчэ ў 1950-х гадах у асяроддзі польскіх палітычных бежанцаў. У адрозненне ад нацыяналістаў, якія ўпарта адмаўляюцца прымаць атрыманыя ў спадчыну ад Другой сусветнай вайны межы, працягваючы спадзявацца аднойчы вярнуць сабе страчаныя ўсходнія тэрыторыі, якія адышлі Украінскай, Літоўскай і Беларускай ССР, прыхільнікі гэтай дактрыны мяркуюць, што самы надзейны спосаб стрымаць імперскія амбіцыі Расіі — гэта падтрымка незалежнасці дзяржаў УЛБ».

**Le Monde (Францыя)**

«Адна з галоўных задач Лукашэнкі на расійскім трэку — гэта не дазволіць Маскве стаць пасярэднікам ва ўрэгуляванні канфлікту, а даць магчымасць "бацьку" ўсё разруліць самому, не дапускаючы апазіцыю да перамоваў. Не выключана, што менавіта з гэтым і звязаныя апошнія масавыя затрыманні. Таксама варта адзначыць, што сама апазіцыя не змагла паказаць чагосьці незвычайнага».

**Strana.ua (Украіна)**

«Справа не ў тым, што Лукашэнка кажа абуральныя з пункту гледжання гендарнай роўнасці рэчы, а ў тым, што ён шчыра ў іх верыць. Яго карціна свету прадвызначыла жаночы складнік беларускай рэвалюцыі, галоўнымі дзеючымі асобамі якой сталі Святлана Ціханоўская, Марыя Калеснікава і Святлана Алексіевіч. Калі б не сексізм і не брутальныя мачысцкія метады "бацькі", усё склалася б зусім інакш. Прозвішча "Ціханоўская" трапіла ў выбарчы бюлетэнь толькі па той прычыне, што Лукашэнка не верыў у здольнасць "нейкай хатняй гаспадыні" скласці яму канкурэнцыю».

**«Взгляд» (Расія)**




Фота www.moscow-oblast.sm-news.ru

# Калі дыктатар баіцца коміка

Алег НОВІКАЎ

**Кіраўніцтва Казахстана не знаходзіць сабе месца. Стала вядома пра хуткі рэліз фільма «Борат-2», зняты брытанскім комікам Сашам Коэнам.**

Фільм з'яўляецца працягам карціны «Борат: вывучэнне амерыканскай культуры на карысць слаўнага народа Казахстана», якая пабачыла свет у 2006 годзе. Гэта псеўдадакументальная стужка пра жыццё выдуманага рэпарцёра з Казахстана Бората Сагдзіева, які выпраўляецца ў Амерыку, каб навучыцца там дэмакратыі.

Пры гэтым, думаецца, наўрад ці Коэн хацеў неяк абразіць дзяржаву Казахстан, якая з'явілася тут, хутчэй, выпадкова. На экране гэта краіна выглядае як тыповая балканская посткамуністычная дзяржава, якая фармальна арыентаваная на заходнія стандарты, а на самай справе вельмі далёкая ад іх. Напрыклад, характэрная пачатковая сцэна, якая дэманструе ад'езд Бората ў Амерыку на вучобу дэмакратыі на аўтамабілі, які цягне конь.

А вось у Астане (так у 2006-м называўся цяперашні горад Нурсултан) гэтага сатырычнага падтэксту не зразумелі. Яшчэ задоўга да прэм'еры кіраўніцтва краіны абвясціла Коэну і яго твору сапраўдную вайну, паколькі стужка, як заявіў МЗС, фарміруе Казахстану неадэкватны вобраз краіны-варвара, дзе ўсе займаюцца інцэстам і п'юць віно з мачы каровы.

Наколькі сусветныя гледачы сапраўды верылі ў тое, што казахі робяць такія рэчы, цяжка сказаць. А вось тое, што стужка стала аплявухай для ўсяго рэжыму Назарбаева, — відавочна. Прадэманстраваны Коэнам на экране Казахстан цалкам не супадаў з тым вобразам квітнеючай краіны, які Астана спрабавала навязаць свету.

Таму за фільмам Коэна адразу пабачылі вушы «замежных разведцэнтраў» або «пятай калоны». «Наўрад ці можна лічыць, што клоунскія выхадкі Коэна ў вобразе "нязграбнага Бората" — звычайная пародыя на казахскіх тэлежурналістаў. Вельмі сістэмныя і прафесійныя гэтыя антыказахскія выпады. Парадыйны "казах Борат" — гэта не механізм шоу-бізнесу для прыцягнення ўвагі заходняй аўдыторыі рознымі глупствамі, а прадуманы інструмент інфармацыйнай вайны супраць незалежнага Казахстана», — адзначала адно з праўладных выданняў. Яно ж спрабавала давесці, што шоу Коэна фінансуе казахская апазіцыя ў замежжы.

У сваю чаргу, у МЗС Казахстана агучвалася ідэя падаць на Коэна ў амерыканскі суд, каб дамагчыся поўнай забароны фільма. Увосень 2006-га ўрад Казахстана абвясціў аб правядзенні ў ЗША інфармацыйнай кампаніі, фрагментам якой стала распаўсюджванне праз СМІ інфармацыі, што распавядае пра «рэальны Казахстан».

Напружаныя адносіны Казахстана з «Боратам» нікуды не падзеліся і ў наступным дзесяцігоддзі. У 2010-м адзін тамтэйшы дэпутат заявіў, што фільм назаўжды ачарніў рэпутацыю краіны за мяжой і нашкодзіў казахам у свеце. Адначасова многія казахскія кінематаграфісты ў рамках дзяржзамовы спрабуюць абвергнуць выяўленыя ў фільме Коэна стэрэатыпы накшталт таго, што «жанчыны дзякуючы рэформам ураду атрымалі права ездзіць у аўтобусах, а гомасексуалам дазволілі не насіць блакітныя капелюшы на публіцы».

Эфект гэтых намаганняў быў амаль нулявы. Публіка ўпарта бачыць Казахстан вачыма Бората. Як прыклад — скандальны інцыдэнт на спартовых спаборніцтвах 2012 года ў Кувейце. Падчас узнагароды атлета з Казахстана арганізатары ўключылі варыянт гімна з «Бората» замест сапраўднага нацыянальнага гімна краіны. Над стадыёнам залуналі словы з песні Бората: «Казахстан — гэта найвялікшая краіна ў свеце. Усімі іншымі краінамі кіруюць дзяўчаты».

Падобна, паступова ўсвядоміўшы бесперспектыўнасць вайны з «Боратам», у Назарбаева вырашылі шукаць новыя фармулёўкі трактоўкі камедыі. У мінулым годзе амбасадар Казахстана ў ЗША заявіла, што Борат больш не раздражняе яе кіраўніцтва. Як заявіла дыпламат, «такі аналаг раздражнення будзе падобны на той, які можа адчуць англічанін, калі яго прыраўняюць да містэра Біна». Усё больш чыноўнікаў прызнаюць, што фільм пра Бората спрыяе цікавасці да краіны і выклікае намер яе наведаць. Гучалі нават заклікі да Назарбаева асабіста падзякаваць Коэну за рэкламу.

Зрэшты, пакуль Назарбаеву не да гэтага. Справа ў тым, што вялікі казахскі журналіст Борат Сагдзіеў зноў вяртаецца. Выпуск фільма пра яго новыя прыгоды чакаюць у пачатку лістапада. Што тычыцца сюжэту «Бората-2», мяркуецца, што галоўны герой будзе лічыць сябе знакамітасцю пасля поспеху першага фільма, і паспрабуе хавацца, прыкідваючыся іншым чалавекам. Магчыма, фільм неяк прывязаны да выбараў прэзідэнта ЗША, паколькі выйдзе напярэдадні галасавання 3 лістапада. Пішуць, што ў сіквеле будуць паказаныя адносіны паміж прэзідэнтам ЗША Дональдам Трампам і фінансістам Джэфры Эпштэйнам, што быў абвінавачаны ў сексуальным гвалце і памёр у турме.

Магчыма, гэтым разам герой Сашы Коэна не збіраецца «праслаўляць» Казахстан, і ў Нурсултане могуць спаць спакойна. Зрэшты, пакуль не адбудзецца прэм'ера, супакойвацца атачэнню Елбасы рана. Ад Бората можна чакаць чаго заўгодна.

## ЗАМЕЖНЫЯ ПАЛІТЫКІ ПРА ПАДЗЕІ Ў БЕЛАРУСІ

**Ангела МЕРКЕЛЬ, канцлер Германіі:**



«Аўтарытарныя сістэмы могуць паспяхова існаваць, і нават кідаць выклік цывілізаванаму грамадству. Напрыклад, сітуацыя ў Беларусі, дзе прыхільнасць дэмакратыі літаральна растаптаная нагамі. Грамадзяне Германіі выказваюць падтрымку пратэстоўцам. Акрамя таго, еўрапейцы здзіўленыя смеласцю і рашучасцю беларусаў».

**Джо БАЙДЭН, кандыдат у прэзідэнты ЗША ад Дэмакратычнай партыі:**



«Я падтрымліваю тых, хто заклікае да вызвалення ўсіх палітычных вязняў. Я заклікаю Лукашэнку паважаць правы ўдзельнікаў пратэстаў і ўстрымацца ад далейшага гвалту. (...) Народ Беларусі патрабуе, каб яго пачулі пасля 26 гадоў сістэматычных рэпрэсій з боку аўтарытарнага рэжыму».

**Міхал ДВОРЧЫК, кіраўнік канцылярыі прэм'ера Польшчы:**



«Уходзе бліжэйшай сустрэчы еўрапейскіх лідараў Матэвуш Маравецкі ад імя Вышаградскай групы прадставіць так званы "план Маршала для Беларусі". Гэта праект цэлага шэрагу ў асноўным эканамічных мер, якія можна было б прапанаваць Беларусі ў выпадку правядзення там законных выбараў. Гэта прапанова дапамогі і свайго роду дарожная карта для Беларусі, звязаная са стварэннем фонду стабілізацыі гэтай краіны».




**Аляксандр ЗВІТНЕВІЧ, кіраўнік камітэта Вярхоўнай Рады Украіны па нацыянальнай бяспецы:**

«Самая вялікая небяспека нападу Расіі на краіну з боку Данбаса, аднак нельга выключаць і магчымасць нападу Расіі з тэрыторыі Беларусі. Паміж Масквой і Мінскам падпісаная дамова ў рамках АДКБ, а адзін з артыкулаў дазваляе ў мінімальна кароткія тэрміны прадставіць войскі ў выпадку знешняй агрэсіі, а гэта нясе пагрозу для Украіны».

**Керсці КАЛЬЮЛАЙД, прэзідэнт Эстоніі:**



«Вельмі важна, каб асобы, якія прымаюць рашэнні ў Мінску, разумелі, што Гаага насамрэч знаходзіцца не так ужо далёка. Вінаватыя ў гвалце супраць беларускай апазіцыі павінны быць як мага хутчэй пакараныя. Але лёс Беларусі павінен вырашаць яе народ. Беларускі народ павінен справіцца з гэтым сам. Умяшанне звонку немагчымае і неміэтазгоднае. І гэта тычыцца як Усходу, так і Захаду».

# Забытая рэвалюцыя

## Як гамельчукі і гродзенцы дапамагалі ў Адэсе цара зрынуць

Юрый ГЛУШАКОЎ

**Улетку 1905 года, 115 гадоў таму, мяцежныя матросы захапілі карабель імператарскага флоту «Пацёмкін-Таўрычаскі».**



Фота www.ytimg.com

### Больш цар не патрэбны!

У свой час паўстанне на браняносцы «Пацёмкін» было культавай падзеяй. Адзін фільм Сяргея Эйзенштэйна, зняты ў 1925 годзе, чаго варты: кінастужка пра мяцежны браняносец шэсць разоў прызнавалася адным з найлепшых фільмаў усіх часоў і народаў.

Але цяпер гэты юбілей прайшоў незаўважана. А дарма. На самай справе, падзеі пачатку мінулага стагоддзя павінны быць расчышчаныя ад міфаў — як старых, так і новых. Сярод найноўшай міфалогіі — «Расія, якую мы страцілі». Кансерватыўная прапаганда Расіі імкнецца адлюстраваць Расійскую імперыю як нейкі патрыярхальны рай, дзе юнкеры і іншая «эліта» бавілі час на балях, у той час як шчаслівыя лёкаі хрусцелі французскай булкай. Рэальнасць «турмы народаў» была вельмі далёкая ад лубачных малюнкаў...

1905 год пачаўся з крывавых падзей на Палацавай плошчы Пецярбурга. Царскія войскі стралялі ў мірную дэманстрацыю з абразамі, дазволеную пецярбургскім гарадскім кіраўніком Іванам Фулонам. Тысячы забітых і параненых пакрылі вуліцы сталіцы Расійскай імперыі. У адказ па ўсёй краіне пачалася рэвалюцыя.

Паэтка і беларуская нацыянальная дзяячка Алаіза Пашкевіч (Цётка) адгукнулася на гэтыя падзеі вершамі «Хрэст на свабоду»:

*Чую яшчэ голас з неба,*
*Што цара павесіць трэба!*
*З той пары Масква, Варшава,*
*Рыга, Вільня, Бак, Лібава,*
*Беларусь, Літва, Расея*
*Гоняць вон цара-зладзея!*
*Народ чуе голас з неба,*
*Што больш цара не патрэба!*

Па ўсёй краіне прайшлі забастоўкі і дэманстрацыі. Але ўсе яны былі разагнаныя войскамі і паліцыяй. У Гомелі была свая «Крывавая нядзеля»: у студзені 1905 года паліцыя і салдаты разагналі мітынг у Кагальным рове. Пры гэтым гарадавы застрэліў маладую работніцу, а 16-гадовага падлетка, які спрабаваў уцячы, салдат штыком прыбіў да плота.

Армія і флот усё яшчэ заставаліся апорай абсалютнай улады цара Мікалая ІІ. І вось 14 чэрвеня 1905 года адбылася раней нябачаная падзея — паўстала каманда аднаго з найбуйнейшых караблёў царскага флоту «Князь Пацёмкін-Таўрычаскі».

Флот лічыўся элітным відам Узброеных Сіл. Марскімі афіцэрамі часцяком станавіліся прадстаўнікі радавітай арыстакратыі.



Фота www.shkolazhizni.ru

Напрыклад, «остзейскія» немцы, то-бок выхадцы з нямецкага дваранства Балтыі. Зразумела, што настроеныя яны былі далёка не дэмакратычна. Служба матросаў была вельмі цяжкай, стаўленне марскіх афіцэраў да ніжніх чыноў — адно з самых жорсткіх. Мардабой і іншыя катаванні былі звычайнай з'явай. Са з'яўленнем жа ў Расіі паравога флоту сюды сталі набіраць у большай колькасці рабочых. Аднак тыя былі знаёмыя ўжо не толькі з граматай і тэхнікай, але і з рэвалюцыйнымі ідэямі, і практыкай забастовачнай барацьбы.

І вось паўсталі матросы аднаго з самых новых і сучасных караблёў імперскага флоту.

### Пасажыр пад паліцай

Якім бокам Беларусь была да падзей, што адбываліся на Чорным моры? Бурлівае, нібы марская стыхія, развіццё капіталізму і чыгунак значна скараціла адлегласці ўнутры Расійскай імперыі. Гомельскі павет і многія іншыя рэгіёны былі малаўраджайнымі, з перыядычнасцю раз на некалькі гадоў тут здараліся галадаванні. І вялікая колькасць беларускіх гастарбайтараў штогод адпраўляліся на заробкі ў хлебную Украіну. Дзяўчаты працавалі ў панскіх маёнтках, а арцелі гомельскіх будаўнічых рабочых дабіраліся да Адэсы і Екацярынаслава.

Адным з першых настаўнікаў марксізму для Льва Троцкага, будучага «правадыра сусветнай рэвалюцыі», быў рабочы-друкар Палякоў. У канцы XIX стагоддзя Палякоў арганізаваў першыя працоўныя гурткі ў Гомелі. Істотнымі перашкодамі для іх гарта былі не толькі паліцэйскі вышук, але і патрыярхальныя норавы як іудзейскай, так і хрысціянскіх канфесій, што квітнелі ў Гомелі. Калі — нябачаная справа! — маладыя дзяўчаты сталі хадзіць займацца на кватэру да радыкала-рабочага, гэта літаральна ўзрушыла тагачаснае грамадства. Урэшце марксіст Палякоў пераехаў у Адэсу, у гімназіі якой і вучыўся малады Троцкі-Бранштэйн. Да гэтага сын адзінага ва ўсёй Расійскай імперыі габрэя-памешчыка больш схіляўся да нарадавольніцкіх ідэяў. Палякова як аднаго са сваіх настаўнікаў-марксістаў Троцкі згадвае ў кнізе «Маё жыццё».

Але больш, чым для сацыял-дэмакратаў, сапраўднай «Меккай», Адэса стала для анархістаў. Як вядома, першая анархісцкая групоўка ў Расійскай імперыі з'явілася ў Беластоку Гродзенскай губерні ў канцы 1902 — пачатку 1903 года. Аднак паралельна з гэтым у Адэсе існавала напаўанархісцкая групоўка «Саюз непрымірымых». Улетку 1904 года для ўстанаўлення сувязі да адэсітаў выехаў анархіст Блехер («Берэк»,«Гарадавойчык»). У сваё падарожжа ён выправіўся практычна без грошай, бо з фінансамі ў беластоцкай групоўкі анархістаў-камуністаў было цяжка. У адрозненне ад сацыял-дэмакратаў або эсэраў, прыхільнікаў безуладдзя ніхто не фінансаваў, а эпоха экспрапрыяцый была наперадзе. Квіток 3-га класа Беласток–Адэса каштаваў тады 8 рублёў 60 капеек, альбо ледзь не сярэдні месячны заробак рабочага. Аднак Берэк быў знаходлівым хлопцам — ён забраўся пад вагонную паліцу, і такім чынам ехаў да канчатковага пункта. У Адэсе ён блукаў некалькі дзён без начлегу і ежы, пакуль выпадкова не сустрэў знаёмага беластачаніна, які быў у групоўцы «непрымірымых».

На зваротную дарогу шчодрыя адэсіты ўручылі Берэку трохі грошай. А самае галоўнае — анархісцкую літаратуру, на якую на Гродзеншчыне тады быў вялікі попыт.

З гэтага моманту Беласток і Гродна — на поўначы, Адэса і Екацярынаслаў — на поўдні, становяцца найбуйнейшымі цэнтрамі анархісцкага руху ў імперыі. У Беласток з Адэсы прыбываюць Уладзімір Лапідус («Стрыга») і Іуда Гросман-Рошчын, якія заснавалі новыя радыкальныя плыні ў анархізме — «безматыўнікаў» і «чорнасцягаўцаў», якія даволі хутка пацяснілі больш сентыментальнае вучэнне Крапоткіна. З Беластоку і Гродна ў Адэсу і Екацярынслаў пачынаюць цэлымі партыямі выязджаць баевікі і экспрапрыятары.

### «Няхай жыве народапраўства!»

Падзеі ў самой Адэсе набывалі ўсё больш гарачы характар. Вясной 1905 года тут пачалася ўсеагульная стачка. Страйкамам кіравалі сацыял-дэмакраты з РСДРП і «Бунда». У адзін з мясцовых сацыял-дэмакратычных камітэтаў уваходзіў гамяльчук Нохім Уфрыхцыг. Гомельскі анархіст Барыс Пазік у складзе збройнага атрада змагаўся з пагромшчыкамі.

У чэрвені стачкі працягнуліся. Рабочыя завода Гена спрабавалі дзейнічаць у межах легальнасці, і запыталі ў кіраўніка горада дазволу правесці сход для абмеркавання сваіх праблем. Улады адмовіліся санкцыянаваць «масавае мерапрыемства», а тых, хто рызыкнуў сабрацца, сталі арыштоўваць. Па рабочых, якія пратэставалі, быў адкрыты агонь, два чалавекі былі забітыя. Тут і падышоў да Адэсы паўстанец-браняносец «Пацёмкін».

Гісторыя матроскага паўстання дастаткова добра вядомая. Рэвалюцыйнае браджэнне тут ішло даўно, хаця выразна афармленых партыйных сімпатый сярод каманды не было. Пасля бальшавікі спрабавалі запісаць паўстанне на свой рахунак, меншавікі — на свой. Але Афанасій Мацюшэнка, які стаў на чале паўстання, быў беспартыйным і прытрымліваўся хутчэй анарха-эсэраўскіх поглядаў. Такім жа стыхійным бунтарствам вызначалася і



Пажар у порце Адэсы, 1905 год

**Першым украінскі сцяг 29 красавіка 1918 года падняў былы мяцежны браняносец «Георгій Пераможца», які стаў флагманам украінскага флоту. Гэты дзень пасля стаў днём ВМФ Украіны**

большасць актыўных удзельнікаў выступлення.

Падставай для паўстання паслужыла спроба накарміць матросаў пратухлым мясам. Яго закупіў у Адэсе суднавы рэвізор мічман Макараў, прычым зрабіў гэта ў краме свайго знаёмага купца Капылава. Ужо пры закупцы па мясе поўзалі чарвякі — самадзяржаўная Расія была наскрозь прасякнутая карупцыяй, і сістэма «схемаў» і «адкатаў» там працавала таксама.

Пасля таго, як каманда адмовілася есці боршч з гнілога мяса, камандзір карабля Голікаў пргыразіў бунтаўнікам, што павесіць іх «на наке». І большасць каманды ўжо перайшла да вежы 12-цалёвай пушкі, дзе па загадзе камандавання выстройваліся тыя, хто пагадзіўся есці пратухлую ежу. Але тады старшы афіцэр Гіляроўскі, баючыся, што няма каго будзе пакараць за бунт, загадаў накрыць матросаў брызентам. На флоце так звычайна рабілі з прызначанымі да расстрэлу. Жаданне заступіцца за таварышаў, якіх каралі несправядліва, і выклікала паўстанне.

Камандзір браняносца Голікаў паспрабаваў падарваць карабель разам з матросамі, але гэта не ўдалося. Голікаў, старшы афіцэр Гіляроўскі, які смяротна параніў аднаго з лідараў паўстання Вакуленчука, яшчэ чатыры найбольш адыёзныя афіцэры і карабельны лекар былі забітыя. Астатнім афіцэрам жыццё было захаванае.

Над браняносцам былі паднятыя лозунг Вялікай Французскай рэвалюцыі «Свабода, роўнасць, братэрства» і «Няхай жыве народапраўства!».

Пасля прыходу ў Адэсу цела забітага Вакуленчука было звезена на бераг і выстаўленае як абвінавачванне рэжыму.

Мікалай ІІ прызнаваў, што яму проста не верылася ў рэальнасць таго, што адбываецца ў Адэсе. Імгненна была абвешчаная інфармацыйная блакада — у цэнзурны камітэт была накіраваная забарона ўзгадваць у прэсе аб паўстанні. Прыватныя лісты і тэлеграмы, якія распавядалі пра гэта, не прапускаліся. Але, нягледзячы на адсутнасць інтэрнэту і тэлеграм-каналаў, навіна пра падзеі хутка распаўсюдзілася па імперыі і за мяжой.

У самой Адэсе падзеі развіваліся супярэчліва. Рэвалюцыйна настроеныя рабочыя будавалі барыкады і ўступалі ў сутычкі з паліцыяй і войскамі. Адначасова цёмныя элементы ўчынілі ў порце пагром і пажар, падчас якога агнём, пагромшчыкамі і салдатамі было забіта і паранена да паўтары тысячы чалавек.

Праз некаторы час да паўстаўшых далучыўся браняносец «Георгій Пераможца» і навучальнае судна «Прут». Царскі двор і чыноўнікаў прычарнаморскіх губерняў ахапіла паніка. Матроскае паўстанне пахіснула асновы Расійскай імперыі да самага грунту. Паўтары тысячы нядобранадзейных матросаў Чарнаморскага флоту былі арыштаваныя. На некаторыя караблі былі ўведзеныя ўзброеныя вайсковыя падраздзяленні ў якасці своеасаблівага канвою.

З вялікай цяжкасцю ўдалося падавіць паўстанне. Браняносец «Пацёмкін» сышоў да Канстанца і здаўся румынскім уладам. Але па прэстыжы самадзяржаўя, якое ганарылася сваёй арміяй і флотам, быў нанесены такі ўдар, ад якога яно ўжо ніколі не змагло акрыяць.

Хвалі першай рэвалюцыі змяняліся адлівамі жорсткай рэакцыі. Дзясяткі матросаў былі пакараныя смерцю, сотні — адпраўленыя на катаргу. Смяротныя прысуды пацёмкінцам і ўдзельнікам паўстання, якое неўзабаве ўзнікла на крэйсеры «Ачакаў» пад кіраўніцтвам лейтэнанта Паўла Шмідта, зацвярджаў камандуючы Чарнаморскім флотам адмірал Павел Чухнін.

Партыя эсэраў вынесла адміралу прысуд, а выканаць яго павінна была Кацярына Ізмайловіч, таксама дачка генерал-лейтэнанта, камандзіра раскватараванага ў Беларусі армейскага корпуса. У Севастопаль яна выехала з Мінска. 27 студзеня 1906 года Кацярына Ізмайловіч з'явілася на прыём да Чухніна пад выглядам наведвальніцы і страляла ў яго з браўнінга. Адмірал схаваўся пад стол і ацалеў, праўда, быў некалькі разоў паранены. Ізмайловіч забілі на месцы. Паводле адной з версій — расстралялі прама ў двары па загадзе адмірала. Па іншай — дзяўчыну забілі насмерць прыкладамі, ператварыўшы яе ў мех з косткамі. 28 чэрвеня 1906 года ў выніку паўторнага замаху адмірал Чухнін быў забіты эсэраўскім баевікам.

## «Пацёмкін» пад жоўта-блакітным сцягам

Сёння даюцца новыя інтэрпрэтацыі паўстання на «Пацёмкіне». Кажацца, што прызначаны паўстанцамі камандзірам карабля мічман Аляксандр Каваленка быў чальцом Рэвалюцыйнай украінскай партыі (РУП). Вакуланчук звярнуўся з мяцежным заклікам да матросаў на ўкраінскай мове, а Мацюшэнка яшчэ да службы наведваў украінскія гурткі ў Харкаве. А само паўстанне было пралогам украінскай рэвалюцыі 1917–1918 года.

Нацыянальна-вызваленчы складнік, безумоўна, быў моцным і ў тым паўстанні, як і ва ўсім рэвалюцыйным руху супраць самадзяржаўя. Але Афанасій Мацюшэнка ў эміграцыі адмовіўся ўступаць у якія-небудзь партыі — ад бальшавікоў да РУП. Ён далучыўся да анархістаў, вярнуўся ў Расію для працягу барацьбы і быў пакараны. А вось Аляксандр Каваленка сапраўды зблізіўся з украінскай эміграцыяй. Паводле некаторых крыніц, пасля рэвалюцыі ён быў адным з арганізатараў марскога міністэрства Украінскай Народнай Рэспублікі. А першым украінскі сцяг 29 красавіка 1918 года падняў былы мяцежны браняносец «Георгій Пераможца», які стаў флагманам украінскага флоту. Гэты дзень пасля стаў днём ВМФ Украіны. Былы «Пацёмкін» («Св. Панцеляймон») таксама ўвайшоў у склад ваенна-марскога флоту УНР пад назвай «Змагар за свабоду». «Пацёмкін» уваходзіў у 2-ю брыгаду лінейных караблёў. 75 працэнтаў асабовага складу Чарнаморскага флоту на той момант былі этнічнымі ўкраінцамі. Зрэшты, погляды левых эсэраў, бальшавікоў і анархістаў пераважалі сярод маракоў.

Таксама адзначаецца, што большасць чальцоў каманды «Пацёмкіна» падчас паўстання былі выхадцамі з украінскіх губерняў. Паводле некаторых даных, служылі на рэвалюцыйным браняносцы і беларусы, у прыватнасці — ураджэнцы беларускага Падняпроўя.

## У Адэсу па этапе

Цікава, што былы ўдзельнік рэвалюцыі 1905 года ў Адэсе Нохім Уфрыхтыг у 1919 годзе ўваходзіў у склад дырэкторыі Украінскай Народнай Рэспублікі, але толькі... у Гомелі. У 1920-я гады ён як дэмакратычны сацыяліст знаходзіўся ў апазіцыі да партыі бальшавікоў. Як рабочы-друкар, Уфрыхтыг быў уганараваны званнем «Герой працы». Але ні гэта, ні інваліднасць ІІ ступені, атрыманая ім ад пастаяннай працы ў друкарні, не выратавалі яго ад рэпрэсій. У 1920 годзе Уфрыхтыг быў арыштаваны і правёў у турме каля года. Перад следчымі ЧК стары рэвалюцыянер трымаўся цвёрда. У яго архіўна-следчай справе сказана: «На допытах са знаёмых бундаўцаў называе толькі сасланых, пра астатніх кажа: «Назваць іншых знаёмых мне бундаўцаў не дазваляе маё пралетарскае сумленне»».

У 1922 годзе была здзейснена чарговая спроба яго арыштаваць. Але Уфрыхтыг быў прыкаваны да ложка, і таму пакінуты пад падпіску аб нявыездзе. Але затым ветэран працы і рэвалюцыі самавольна пакінуў Гомель і атрымаў ад лячэбнай камісіі ў Маскве пуцёўку ў санаторый у Пяцігорску. Гомельскае ГПУ даведалася пра яго знаходжанне, перахапіўшы яго лісты знаёмым. У пачатку 1923 года Церская ЧК арыштавала Уфрыхтыга. Расследаванне ўстанавіла: «У санаторыі не спыняў антысавецкую дзейнасць».

Рухаючыся па этапе, Уфрыхтыг трапіў у Бутырках у турэмны шпіталь. Лекары прызналі ў яго «хранічнае атручванне арганізма свінцом». Але чарада ссылак — адна за адной на працягу ўсіх 20 гадоў. У 1926 годзе ён папрасіў дазволу вярнуцца ў Гомель да сястры, пасля чаго сляды старога сацыял-дэмакрата губляюцца ў нетрах карнай машыны.

Рабочы Барыс Пазік, што ў 1905 годзе змагаўся на барыкадах Адэсы, таксама быў уганараваны ў Гомелі званнем «Герой працы», а як былы анархіст трапіў у распрацоўку Гомельскага ГПУ. Яшчэ адзін удзельнік адэскага паўстання, меншавік Целяшэўскі ў 1923 годзе таксама быў арыштаваны, і першапачаткова прысуджаны да двух гадоў высылкі ў Чалябінскую губерню. Але неўзабаве суровы ўральскі край быў заменены яму высылкай з Гомеля — у Адэсу. Як сказана ў дакуменце, «каб не даць падставу сказаць, што ГПУ фізічна забівае чальцоў РСДРП».



Афанасій Мацюшэнка (у цэнтры)




Фота www.forums-su.com




Паўстанцы ў румынскім порце Канстанца

# Футбалісты нарэшце далучыліся

Сяргей КАЙКО

**Прадстаўнікі самага папулярнага віду спорту ўсё ж такі нядаўна запісалі відэа, у якім катэгарычна выступілі супраць сілавых метадаў дзяржавы па падаўленні мірных маніфестацый.**



Фота прэс-службы ФК БАТЭ

**Футбалісты БАТЭ і іншых клубаў вырашылі, што маўчаць больш нельга**

З тых самых часоў з іх больш не кпяць — хіба толькі трохі. Іх больш не ганьбяць — хіба што ўзгадваюць пра фальсіфікацыі на выбарах, пра якія ў звароце няма ні слова. Футбалісты збіраюць лайкі, сардэчкі, рэпосты і пазітыўныя каментары. Яны перамаглі страх — і ўжо тое добра.

Троххвілінны ролік з'явіўся ў сецыве ў мінулую суботу. Яго змест даволі ёмісты, хаця і лаканічны:

— Мы запісалі гэтае відэа, таму што не можам маўчаць! Маўчаць — калі б'юць нашых людзей, сяброў, калег. Мы — футбалісты з розных каманд, але з адной краіны. Мы кіруемся толькі сумленнем і нецярпімасцю да ўсяго, што адбываецца сёння ў нашай Беларусі. Мы выказваем спачуванні родным тых, хто быў забіты, хочам выказаць словы падтрымкі ўсім, хто пацярпеў, быў прыніжаны, жорстка збіты і пакалечаны. І заклікаем: спыніце гвалт!

Мы, як і ўвесь наш народ, маем правы і свабоды, якія замацаваныя ў Канстытуцыі. Ніхто не мусіць падвяргацца катаванням, жорсткаму, бесчалавечнаму ці прыніжаючаму яго годнасць абыходжанню альбо пакаранню. Няма іншага прывілею, акрамя аднаго — правы чалавека. Мы за праўду, справядлівасць і свабоду! Мы — супраць гвалту!

У звароце, які можна знайсці на платформе youtube ў блогу «Пяшчотна пра футбол», на дадзены момант узялі ўдзел 98 гульцоў розных клубаў.

У першых шэрагах, што прыемна, прадстаўнікі самага тытулаванага клуба — шматразовага чэмпіёна краіны барысаўскага БАТЭ. Гэта і Павел Няхайчык, і Станіслаў Драгун, і Ягор Філіпенка, і Дзяніс Шчарбіцкі, і Дзмітрый Бага, і Антон Чычкан. Нямала і гульцоў салігорскага «Шахцёра» — тых самых, што старанна адмоўчваліся ў час страйку на «Беларуськаліі». Цяпер яны таксама супраць гвалту — і, ускосна, насуперак кіраўніцтву свайго ж клуба, які ўзначальвае гендырэктар Іван Галаваты. Да акцыі ад Салігорска далучыліся Аляксандр Гутар, Аляксандр Сачыўка, Юрый Кендыш, Мікіта Корзун, Руслан Хадаркевіч і Раман Бегуноў.

Годна сярод удзельнікаў звароту выглядае прадстаўніцтва жодзінскага «Тарпеда». Клуб жыве з прыбыткаў завода БелАЗ, дзе рабочыя ў жніўні таксама меліся распачаць страйк. Футбалісты цяпер падтрымалі імкненні да лепшага жыцця, і зрабілі гэта Максім Бардачоў, Уладзімір Бушма, Андрэй Хачатуран, Мікіта Сціпанаў, Мікіта Мікалаевіч, Кірыл Леановіч.

Доўга можна пералічваць прозвішчы — і не памыліцца ў тым, што свой след у відэа пакінулі гульцы амаль усіх вядучых клубаў Беларусі. Ролік ужо праглядзелі дзясяткі тысяч чалавек, перапосты ў медыях зрабілі яго яшчэ больш вірусным.

Аднак адну цікавую дэталь карыстальнікі заўважылі даволі хутка. Сярод футбольных «маніфестантаў» не аказалася аніводнага гульца двух «Дынама» — брэсцкага і мінскага.

Два гэтыя клубы — таксама лідары беларускага футбола. Пад брэндам са знакавай літарай «Д» гуляе шмат вядомых майстроў, у тым ліку зборнікаў. Іх удзел у акцыі супраць гвалту разумеўся сам сабой, бо ініцыятыва проста не магла прайсці міма такіх каманд.

Чаму так адбылося? Ёсць розныя меркаванні. Самыя папулярныя з іх адсылаюць да прыналежнасці клубаў на праўладных структур і асобаў.

Напрыклад, мінскае «Дынама» з параўнальна нядаўніх часоў курыруецца аднайменным БФСТ — фізкультурна-спартыўным таварыствам. Тое ж гістарычна грунтуецца на сілавых органах. Таму нельга выключаць, што менавіта з гэтай прычыны гульцы сталічнай каманды набралі ў рот вады.

Брэсцкае «Дынама», у сваю чаргу, па факце — клуб прыватны. Але над ім апекуецца бізнесовец Аляксандр Зайцаў, прадпрымальнік, набліжаны да ўладаў. Выступ яго футбалістаў супраць гвалту можна было б расцаніць, мякка кажучы, неадназначна.

Між тым на заклік футбалістаў адрэагавалі чальцы Свабоднага аб'яднання спартоўцаў. Тыя самыя, якія падпісаліся пад вядомым зваротам за сумленныя выбары, а па нядзелях рэгулярна ўдзельнічаюць у маршах пратэсту. З аднаго боку, Аляксандра Герасіменя, Алена Леўчанка, Васіль Хамутоўскі, Кацярына Сныціна, Артур Удрыс і іншыя падзякавалі футбалістам за грамадзянскую пазіцыю. З другога — засярodзілі ўвагу на каранях сённяшніх падзей.

Спартоўцы запісалі свой выступ, у якім адзначылі: «Гвалт не з'явіўся сам па сабе. І калі мы хочам спыніць яго, то нам трэба змагацца з прычынай. А яна ў тым, што ў беларусаў скралі іх выбар і права на ўласнае меркаванне. І сілай спрабуюць задавіць любое мірнае незадавальненне гэтым».

# 15 сутак Сяргею Шчурко

Сяргей КАЙКО

**Сяргей паспеў паведаміць сяброўцы Вользе Хіжынковай, маўляў, да мяне едуць для размовы супрацоўнікі міліцыі. У наш час гэтага хапае, каб зрабіць несуцяшальныя высновы. У той жа дзень яго затрымалі.**

Суд быў імклівы — таксама прыкмета часу. Па яго хуткаспелых выніках, вядомы спартыўны журналіст атрымаў 15 сутак, якія правядзе на Акрэсціна.

Першамайскае РУУС сталіцы патлумачыла, што справа адміністрацыйная, а адказнасць прадугледжана паводле часткі 1 артыкула 23.34 КААП РБ: «Парушэнне парадку правядзення сходу, мітынгу, вулічнага шэсця, дэманстрацыі, пікетавання і г.д.». У перакладзе з юрыдычнай мовы на звычайную вынікае, што 15 сутак журналіст атрымаў за банальны ўдзел у нядзельным маршы. У тым самым, які сабраў на мінскіх вуліцах сотні тысяч людзей і прайшоў мірна, годна і велічна.

Чаму пад раздачу патрапіў менавіта 51-гадовы аглядальнік «Прэсбола», дый яшчэ на наступны дзень, а не «з пылу, з жару», цяжка нават здагадацца.

Сяргей Шчурко — з тых журналістаў, якія ведаюць літаральна ўсе, датычныя да беларускага спорту. Майстэрскі інтэрв'юэр, за доўгія гады плённай працы ён здолеў разгаварыць, вывесці на рэдкія шчырасці не адну зорку — і не толькі спартыўную. Анатоль Капскі, Валянцін Бялькевіч, Юрый Пудышаў... Здаецца, няма аніводнай значнай для беларускіх заўзятараў фігуры, чый голас не запісваў бы дыктафон Сяргея. Выходзячы за межы спорту, дзе яму заўсёды было трохі цеснавата, ён ладзіў сустрэчы з вядомымі людзьмі ад улады — як з тагачасным прэм'ер-міністрам Міхаілам Мясніковічам ці экс-губернатарамМіншчыны Барысам Батурам. З лёгкасцю знаходзіў агульную мову з зоркамі культуры — як з Лявонам Вольскім ці Андрэем Курэйчыкам. Бывалую за мяжой, размаўляў з фігурамі кшталту Уладзіміра Зяленскага, яшчэ не падазраючы, што той праз колькі гадоў стане прэзідэнтам Украіны.

Апошні пакуль практыкум таленавітага інтэрв'юера — размова з Мікалаем Казекам, Дзмітрыем Дашчынскім ды Вадзімам Крывашэевым. Так-так, з гераічнымі нашымі фрыстайлістамі, якія выказалі годную грамадзянскую пазіцыю і праз тое аказаліся пад ціскам уладаў.

Але Шчурко — гэта не толькі пра журналістыку. Ён таксама — класны арганізатар тых самых масавых мерапрыемстваў, зрэшты, далёкіх ад палітыкі. Дабрачыннасць, дапамога тым, хто трапіў у бяду, спартыўныя актыўнасці дзеля высакародных мэтаў... Гэтыя праекты прынеслі Сяргею не меншую вядомасць і павагу ў спартыўным соцыуме.

«Мова Cup» у падтрымку беларускай мовы, 24-гадзінны дабрачынны марафон на карысць дзяўчынкі-гімнасткі, што пакутуе на анкалогію, «Спартсмены — дзецям»... Колькасць праектаў, якія зладзіў гэты энерджайзер пры дапамозе сяброў-атлетаў, зашкальвае і захапляе. Зноў жа з апошняга — пару тыдняў таму ён ініцыяваў збор сродкаў для маладога спартсмена-інваліда, і тыя 20 тысяч долараў павінны дапамагчы хлопцу аднавіць моцна пахіснутае здароўе.

Затрыманне Сяргея прадказальна ўзрушыла спартыўнае грамадства. Яму таксама дапамогуць. Ужо ініцыяваны збор грошай, ужо нясецца ў сецыве моцная маральная падтрымка. Дабро, у сілу якога ён так верыць, абавязкова вернецца да яго бумерангам. І ў выніку пераможа, бо так мае быць.

Застанецца толькі пытанне: чаму менавіта такія людзі ў сучаснай Беларусі пакутуюць ад рэпрэсій, уціску і няволі? Адукаваныя, інтэлігентныя і светлыя... Пытанне рубам, хаця адказ на яго даўно вядомы.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1559

Падпісана да друку 17.09.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.